*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 11 лістапада 1988 г. № 45 (3455) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# ЖЫВАПІСЦЫ— ЮБІЛЕЮ РЭСПУБЛІКІ



І. БАРХАТКОЎ. «Вестуны. Памяці першых піянераў»



Б. КАЗАКОЎ. «Бяда».



А. СЯМІЛЕТАЎ. «У. І. Ленін».

3 лістапада ў мінскім Палацы мастацтваў адкрылася Рэспубліканская выстаўка жывапісу, прысвечаная 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі, а таксама 50-годдзю Саюза мастакоў Беларусі. На ёй прадстаўлены палотны, створаныя пераважна за некалькі апошніх гадоў — сюжэтны жывапіс, краявіды, партрэты, нацюрморты.

У экспазіцыі прадстаўлены ўсе пакаленні беларускіх мастакоў, і ўжо з гэтае прычыны выстаўка дае досыць шырокае і дастаткова аб'ектыўнае ўяўленне аб гісторыі, сучасным стане і тэндэнцыях развіцця нашага жывапісу. Дыяпазон яе ў асобах — ад ветэранаў П. Масленікава, В. Цвіркі, К. Касмачова, І. Стасевіча, Я. Зайцава і іншых, што сімвалізуюць сваёй творчасцю рэалістычныя традыцыі мастацтва Беларусі, да такіх мастакоў, як А. Тарановіч, У. Кожух, А. Маціевіч, што сцвярджаюць новы погляд на рэчаіснасць, пошук новых сродкаў выразнасці.

Адметнасць яе ад ранейшых такіх выставак у тым, што павялічылася колькасць карцін на «вольную» тэму, што наогул пашырылася кола тэм (скажам, зварот многіх мастакоў да трагічных падзей часоў сталіншчыны, да экалагічных праблем); што на ёй знайшлося месца так званаму «эксперыментальнаму» жывапісу; што многія мастакі дэманструюць надзвычай высокі ўзровень прафесіяналізму; што сёння беларускія мастакі надаюць больш увагі фармальнай пабудове палатна — колеру, каларыту, кампазіцыі, не выходзячы, за малым выключэннем, за межы рэалістычных форм.

Услед за іншымі саюзнымі рэспублікамі ў хуткім часе Беларусь будзе прадстаўляць сваё выяўленчае мастацтва ў Маскве. Таму выстаўку ў мінскім Палацы мастацтваў можна лічыць своеасаблівай генеральнай рэпетыцыяй.

Газета «ЛіМ», безумоўна, яшчэ звернецца да яе.

НАШ КАР.



М. ДАНЦЫГ. «Васіль Быкаў».



В. ЯУСЕЕЎ. «Аднагалосна».

Фота Ул. КРУКА.

## У НУМАРЫ:

# З ПОШТЫ ГЭТАГА ТЫДНЯ

**Па-ранейшаму ў рэдакцыйнай пошце пераважаюць лісты, звязаныя з падзеямі 30 кастрычніка ў Мінску ля Маскоўскіх могілак, а таксама з публікацыяй у рэспубліканскім друку антыперабудовачных артыкулаў, накшталт «Эвалюцыя палітычнага невуцтва», «Пена на хвалі перабудовы» і інш. Частку гэтае пошты прапануем увазе чытачоў.**

●

Калі мяне праз паведамленне ў гарадской вячэрняй газеце спрабуюць пераканаць у тым, што на Беларусі няма традыцыі праводзіць Дзень памяці продкаў, я зноў і зноў паўтараю: павінна быць такая традыцыя, калісьці ж яна павінна нарадзіцца! І — нарадзілася. Я абсалютна перакананы ў тым, што гэта добрая і высокая традыцыя — разам са сваімі сабратамі пайсці на магілы дзядоў і бацькоў, усім народам пакланіцца тым супляменнікам, якія гэтых магіл не маюць і прах якіх раскіданы па ўсім белым свеце. Прах ахвяраў жудасных рэпрэсій і войнаў... Вось чаму я пайшоў на той мітынг-рэквіем, нягледзячы на тое, што быў адменены дазвол на яго правядзенне. Пайшоў, бо дасюль не ведаю, дзе ляжыць мой бацька — Аляксандр Анікейчык, урач-тэрапеўт з Барысава, якога ў жніўні 37-га года энкэвэдзісты павялі пад канвоем з дому, павялі ў нябыт. Няма апошняга прытулку і ў майго брата, які загінуў недзе на Одэры ў час Вялікай Айчыннай... Я павінен быў быць на мітынгу яшчэ і таму, што туды збіраліся ісці і мае студэнты, бо разумеў: папярэджанні і забароны з боку гарадскіх улад толькі «падаграюць страсці» і могуць узнікнуць непрадбачаныя сітуацыі.

Словам, вырашыў я паехаць на Маскоўскія могілкі раней, каб паспець ускласці кветкі на магілы П. М. Машэрава і У. С. Караткевіча. Я добра ведаў гэтых выдатных людзей, маімі рукамі былі зроблены помнікі, якія цяпер стаяць на іх магілах. Але на маім шляху былі выстаўлены міліцэйскія пасты. Праз тры з іх мяне прапусцілі, а на чацвёртым спынілі: ехаць далей нельга!

Менш за ўсё ў інцыдэнце з мітынгам-рэквіемам мне хочацца вінаваціць міліцыю: яна выконвала загад, які нельга было аддаваць. Вывад? Кіраўніцтва горада, на жаль, не давярае сваім суграмадзянам і, як засведчылі факты, проста не паважае народ. А я асабіста ўпэўнены: нават калі б і адбываліся на мітынгу нейкія экстрэмісцкія выхадкі, дык самі людзі дапамаглі б міліцыі суняць хуліганаў.

У чым я яшчэ глыбока перакананы, дык гэта ў тым, што паўсюль, дзе збіраецца на падобныя мерапрыемствы народ, тым больш на мітынгі, з народам побач павінны быць камуністы. Бо менавіта партыя дала сёння нам магчымасць выказваць адкрыта свае думкі, партыя адкрыла шлях да дэмакратызацыі грамадства. А мы, у Мінску, не знайшлі нічога больш разумнага, як скампраметаваць гэтыя парасткі абнаўлення свядомасці і сумлення людзей. Пачуццё сораму выклікае і тое, што ў гэтай сітуацыі былі спробы супрацьпаставіць інтарэсы інтэлігенцыі інтарэсам рабочага класа. Пачуццё сораму і трывогі.

У тэатральна-мастацкім інстытуце, дзе я выкладаю, адразу пасля падзей на Маскоўскіх могілках прайшоў агульны сход. Выкладчыкі і студэнты асудзілі дзеянні тых, хто даў санкцыю на фактычны разгон мітынгу, хто дазволіў таптаць пачуццё чалавечай годнасці. Такое не павінна паўтарыцца!

**А. АНІКЕЙЧЫК,**
**народны мастак БССР,**
**прафесар, дэпутат**
**Вярхоўнага Савета БССР.**

●

Лічу сваім чалавечым, грамадзянскім і прафесійным абавязкам (займаюся пытаннямі беларускай святачнай культуры) выказаць думку наконт падзей, што адбыліся 30 кастрычніка гэтага года каля ўвахода на могілкі па Маскоўскай шашы.

Упершыню спроба ўшанаваць памяць рэпрэсіраваных у гады сталінізму лепшых прадстаўнікоў беларускага народа была зроблена мінулай восенню, калі па ініцыятыве інтэлігенцыі ў парку імя Янкі Купалы быў арганізаваны мітынг Памяці. «Дзяды» — так прыгожа называюць беларусы гэтае свята.

Сёлета такі мітынг павінен быў адбыцца 30 кастрычніка. Але — не адбыўся, яго разагнала міліцыя. Гэтую акцыю можна расцэньваць, мякка кажучы, як масавую маральную рэпрэсію.

Як жа так атрымліваецца, што прадстаўнікам улады, якіх мы вылучаем са свайго народнага асяроддзя, мала справы да таго, чаго жадае народ? Што ж гэта за адносіны да высакародных імкненняў і пачынанняў людзей? Чым можна матываваць такія адносіны да ўзнікшай традыцыі? Гэта, на мой погляд, азначае секчы сук, на якім сядзім. Як можна забарону мітынгу тлумачыць тым, што ў горадзе праводзяцца мерапрыемствы, прысвечаныя дню нараджэння камсамола? А, можа, наадварот, камсамол і павінен быць галоўнай падтрымкай традыцыі? Няўжо камсамолу абыякавы лёс людзей, якія сталі ахвярамі неапраўданых злачынстваў? Аб якой перабудове, галоснасці і дэмакратыі можна гаварыць, калі мы нават у наш рэвалюцыйны час не разумеем сэнсу і значэння мітынгаў? Яшчэ У. І. Ленін пісаў: «Над митингованием смеются, а еще чаще по поводу него злобно шипят буржуа, меньшевики, новожизненцы, видящие только хаос, бестолочь, взрывы мелкособственнического эгоизма. Но без митингования масса угнетенных никогда бы не смогла перейти от дисциплины, вынужденной эксплуататорами, к дисциплине сознательной и добровольной. Митингование, это и есть настоящий демократизм трудящихся, их выпрямление, их пробуждение к новой жизни, их первые шаги на том же поприще, которое они сами очистили от гадов (эксплуататоров, империалистов, помещиков, капиталистов) и которое они сами хотят научиться налаживать по-своему, для себя, на началах своей, советской, а не черной, не барской, не буржуазной власти». (В. И. Ленин. Полн. собр. соч., т. 36, с. 201—202).

Няўжо мы сёння не разумеем і не гаворым прама пра тое, што мы спрабуем і павінны ачышчаць сябе ад галоўнай нашай заганы — бюракратызму? Атрымліваецца, што тыя, каго гэты бюракратызм задавальняе, — мацнейшыя? Але ж факт мітынгу, які адбыўся з удзелам тысяч людзей, сведчыць аб адваротным.

**В. КВЯТКОЎСКАЯ,**
**аспірантка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.**

г. Мінск.

●

**У той дзень, 30 кастрычніка, мой сын, унук і ўнучка таксама былі ля Маскоўскіх могілак, на якіх пахаваны мой муж, удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, удзельнік баёў з мілітарысцкай Японіяй, член партыі з 1919 года. Сын і ўнукі прыйшлі пакласці на яго магілу кветкі, памянуць яго, а таксама і майго бацьку, арыштаванага ў жніўні 1937 года і загінуўшага ў сталінскіх лагерах (у жніўні 1988-га наша сям'я атрымала даведку аб яго рэабілітацыі).**

**Сына з унукамі на могілкі міліцыя пусціла. Потым, выйшаўшы на Маскоўскую шашу, яны ўбачылі ўсё, пра што «ЛіМ» напісаў у нумары за 4 лістапада.**

**А праз два дні прыйшла да нас унучатая пляменніца, студэнтка універсітэта, і расказала, што хадзіла з другой часткай моладзі ў Курапаты, дзе міліцыя, па яе словах, «бушавала»: ужывала дубінкі і адбірала фотаапараты і засвечвала плёнку. Так што я дзіўлюся, адкуль у вашай газеце з'явіўся здымак...**

**І яшчэ. Думаю, пасля таго, як у «ЛіМе» і ў «Чырвонай змене» з'явіліся матэрыялы пра падзеі 30 кастрычніка, будуць зроблены сур'ёзныя вывады. Але баюся, што стружку будуць здымаць не з натхніцеляў гэтай ганебнай акцыі, не з тых, хто даў каманду разагнаць народ, а са стрэлачнікаў. Так было ўжо шмат разоў. Як выбаршчыца, уношу прапанову, каб на бліжэйшай сесіі Мінгарвыканкома, а потым на сесіі Вярхоўнага Савета БССР дэпутаты патрабавалі адпаведных тлумачэнняў.**

**Мне 84 гады. Я шмат пабачыла ў жыцці. І выступленні некаторых аўтараў гарадской вячэрняй газеты нагадалі мне цкаванне «ворагаў народа» ў 1937-ым і шальмаванне Ахматавай, Зошчанкі і Пастарнака пасля вайны.**

**З. ПАКРОЎСКАЯ,**
**заслужаная настаўніца БССР.**

г. Мінск.

●

Факт стварэння «Мартыралогу Беларусі» разглядаю як адно з рэальных сведчанняў перабудовы, дэсталінізацыі. Хачу пакланіцца Васілю Быкаву, творы якога вельмі люблю, за яго ўступнае слова на ўстаноўчай канферэнцыі ў Доме кіно.

Чытаў я таксама і некаторыя, з дазволу сказаць, «артыкулы». Злосныя, аднабаковыя рэплікі і выказванні «актывістаў» у адрас нефармальных аб'яднанняў лішні раз, на маю думку, пераконваюць, наколькі моцнае процідзеянне аказваецца перабудове. З якой упартасцю і ўмелым прыстасаваннем бюракратычная алігархія стараецца стрымаць палітычную перабудову грамадства, задушыць першыя парасткі дэмакратыі.

Мы ўсе, асабліва старэйшае пакаленне, добра памятаем тыя часы, калі з дапамогаю такіх жа «актывістаў» любы чалавек, які адважваўся падняць голас у абарону нацыянальнай культуры, тут жа аб'яўляўся нацыяналістам, а там быў ужо толькі адзін крок да аб'яўлення чалавека «ворагам народа».

І ўсё ж я цвёрда веру, што перабудова, дэмакратызацыя пераможуць. Вельмі хачу, хоць малой лептай, дапамагчы «Мартыралогу Беларусі».

**І. ГРЫБ,**
**выкладчык ПТВ № 76.**

г. Мінск.

●

**Усю восень газеты быццам бы забыліся на плюралізм і «гулялі ў адны вароты» — дубасілі нефармалаў, антысталіністаў, пісьменнікаў, не даючы тым слова. А калі практычна ўся прэса, за выключэннем «ЛіМа», пачала друкаваць «Эвалюцыю...» і «Пену...», скептыкі аж узрадаваліся: «Ага, з'елі сваю перабудову! Усё будзе, як было». Дзіўлюся і на Адамовіча: адкуль ён прадбачыў 30 кастрычніка? Можа, з Масквы далей відаць?**

**І яшчэ адно: у «Советской России» была толькі Ніна Андрэева, а ў «Советской Белоруссии» — Дарожкін і цэлая група яго калег. Тут мы «перамаглі».**

**Э. ЛЯУКОЎ,**
**прафесар.**

г. Мінск.

●

У артыкуле «Пена на хвалі перабудовы», падпісаным карэспандэнтамі БЕЛТА У. Левіным і Б. Тарасевічам, распавядалася пра пасяджэнне палітычнага клуба «Сучаснік». Пасяджэнне адбылося 22 кастрычніка ў Доме палітасветы. Выказванні аднаго з прамоўцаў непасрэдна тычыліся нас, рок-гурта «Мроя».

Паводле публікацыі мы абвінавачваемся ў розных грахах — экстрэмізме, нацыяналізме і г.д. Але ці маюць аўтары рацыю на самай справе?

18 кастрычніка ў ПТВ-52 адбыўся рок-канцэрт, у якім узялі ўдзел рок-гурты «Мясцовы час», «Мроя» і малады, нядаўна створаны гурт, які пакуль што не мае назвы. Мы не будзем акцэнтаваць увагу на шматлікіх дробных агрэхах, дапушчаных ці то прамоўцам В. Штэфскім (ён намеснік дырэктара ПТВ-52 па вучэбна-выхаваўчай рабоце), ці аўтарамі артыкула.

Нас закранулі за жывое абвінавачванні тыпу: «...салісты

ЗАМЕСТ РЭПЛІКІ

# ПУНКТ І ПУНКЦІК

Вялікім рэдакцыйным артыкулам «Аргументы і апаненты» «Вячэрні Мінск» 3 лістапада «вярнуўся да надрукаванага» — сакавіцка-красавіцкай сваёй публікацыі «Пазіцыя ці поза?». Частка артыкула скіравана ў адрас некаторых лімаўскіх выступленняў, але калегам з гарадской газеты найперш хочацца паспачуваць, бо аспрэчваць усіх і адразу — Васіля Быкава, «ЛіМ», Зянона Пазняка, «Талаку», уласных чытачоў — занятак не самы ўдзячны.

Таму, відаць, у чарговым дэмаршы «Вячэрняга Мінска» паменела ваяўнічасці, «Аргументы і апаненты» ўспрымаюцца хутчэй як спроба самаапраўдання. Завяршаецца ж усё і ўвогуле шырокім, «плюралістычным» жэстам: «Наша газета, вядома ж, не прэтэндуе на абсалютную ісціну».

Трэба, аднак, зазначыць, што мы гэтак жа меркавалі яшчэ ў красавіку, калі ў адным з нумароў «ЛіМа» спрабавалі змясціць з невялікім рэдакцыйным каментарыем чытацкі водгук на артыкул «Пазіцыя ці поза?».

Прыстраляная мішэнь «ВМ» — самадзейнае аб'яднанне «Талака». Вось і цяпер, папракаючы некаторых сваіх апанентаў за імкненне стварыць вакол нефармалаў «самую сапраўдную зону па-за крытыкай» (?!), гарадская газета зноў абвінавачвае «талакоўцаў» у адыходзе ад «канкрэтных спраў» па ахове помнікаў гісторыі і культуры. Мы ж маем іншую інфармацыю: на працягу лета па аўторках, чацвяргах і суботах яны працавалі на раскопках Святадухаўскай царквы і Ратушы, што лёгка пры жаданні праверыць. Апроч таго, па ўзгадненні з пракуратурай, некалькі ўдзельнікаў «Талакі» дапамагалі археалагічнай групе Інстытута гісторыі АН БССР, якая праводзіла даследаванні ў Курапатах.

Мяркуючы па артыкуле «Аргументы і апаненты», «Вячэрні Мінск» ганарыцца ўласнымі публікацыямі «па праблемах будаўніцтва метро ў гістарычнай частцы горада». Сапраўды, нямала намаганняў пакладзена, каб запэўніць мінчан у бясшкоднасці другой чаргі метрапалітэна для помнікаў Верхняга горада і скампраметаваць тых, хто думае інакш. Сітуацыя тым часам надзвычай абвастрылася. Нядаўна яе вывучала аўтарытэтная камісія Міністэрства культуры СССР. Вывады, да якіх прыйшла група спецыялістаў на чале з прафесарам, доктарам геолага-мінералагічных навук С. М. Чарнышовым, не суцяшальныя:

**«...Лічыць недапушчальным будаўніцтва станцыі «Няміга» як па інжынерна-тэхнічных, так і па горадабудаўнічых меркаваннях... Прасіць Міністэрства культуры СССР тэрмінова звярнуцца ў Савет Міністраў СССР з просьбай аб прыпыненні будаўніцтва метрапалітэна ў Мінску на ўчастку Верхняга горада...»**

Але вернемся да «Аргументаў і апанентаў». Не ўпершыню са спасылкай на «кампетэнтныя органы» «Вячэрні Мінск» паведамляе звесткі, распаўсюджванне якіх відавочна перавышае паўнамоцтвы газеты — органа гаркома партыі і гарвыканкома. Ці не лепш было б, каб кампетэнтныя органы знайшлі магчымасць самі інфармаваць аб проціпраўных дзеяннях той ці іншай асобы, калі такія ёсць. Досыць дзіўная «ўцечка» інфармацыі (і чамусьці толькі ў «ВМ») не можа не трывожыць. Па сутнасці, утвараецца небяспечны прэцэдэнт, якім карыстаюцца празмерна пільныя аўтары, што прыраўнялі пяро да «ідэалагічнага штыка».

Найбольш выразна гэта праявілася ў скандальным артыкуле «Эвалюцыя палітычнага невуцтва», дзе апанентаў не крытыкуюць — б'юць словамі, а таксама звесткамі з невядома кім сабранага кампраметуючага дасье. Ці, напрыклад, замест спрэчкі з Алесем Адамовічам па сутнасці, з фактамі і аргументамі ў руках, яны ідуць слізкай сцяжынай агульных абвінавачванняў, брудных інсінуацый: маўляў, ведаем, як ты працаваў у Інстытуце літаратуры, як ты ваяжыруеш па заграніцах...

Далей — болей.

Ветэран партыі, вайны і працы І. Клімаў ідзе ў газеце «Вячэрні Мінск» за 4 лістапада яшчэ далей. Не прэтэндуючы на паleміку, ён свой допіс у газету называе проста «заявлением о нижеследующем» і патрабуе заклікаць сусветна вядомага пісьменніка-публіцыста да адказу, уносіць прапанову арганізаваць нешта накшталт грамадзянскай кары над ім на сесіі гарадскога Савета ці ў Акадэміі навук БССР. Ні больш ні менш.

Падобна, што сяму-таму не даюць спакою «лаўры» фанатыка-сталініста з Харкава І. Шахаўцова, які, абразіўшыся за свайго куміра, усё імкнецца прыцягнуць А. Адамовіча да судовай адказнасці, што свае шахаўцовы ёсць, падаюць голас і ў нашай рэспубліцы.

Паказальна, што грозны заяваў-іскам І. Клімава «Не магу пагадзіцца» газета не абмежавалася ў сваім нумары за 4 лістапада. Пад рубрыкай «Пункт гледжання» яна змясціла яшчэ і пісьмо доктара гістарычных навук А. Залескага, які не толькі горача ўхваляе артыкул «Эвалюцыя палітычнага невуцтва», але, зноў-такі, рашуча ідзе далей. Далей за М. Дарожкіна і А. Філімонава, нават далей за І. Клімава. Калі апошні толькі напамінае з дакорам, што А. Адамовіч з'яўляецца членам-карэспандэнтам акадэміі, дык А. Залескі не абмяжоўваецца падобным напамінкам у адрас Васіля Быкава як дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, а вучыць яго ваўсю, «ничтоже сумняшеся», як павінен паводзіць сябе народны абраннік, як павінен выконваць свае дэпутацкія абавязкі, берагчы свой дэпутацкі гонар... І смех, і грэх.

А. Залескі ў сваім лісце падкрэслівае, што ён — гісторык («мне як прафесійнаму гісторыку і этнографу», «аднак я як гісторык»). Значыць, не нейкі там аматар-самавучка, не нейкі там дылетант, а спецыяліст у

лі, адзначыў **К. Цвірка**, бо ў ёй няма сапраўднага гаспадара. На думку прамоўцы, тэрмінова трэба ствараць спрыяльныя ўмовы для кожнага працаўніка, развіваць і захоўваць яго «сялянскасць». Выказаўся К. Цвірка таксама за стварэнне масавага грамадскага руху ў падтрымку перабудовы ў рэспубліцы.

Трывогай было прасякнута выступленне **Я. Пархуты.** Поруч з заклікамі аб выратаванні ўсяго жывога на зямлі павінен быць і заклік «Зберажом чалавека!», сказаў ён. Прамоўца прывёў прыклады бездухоўнасці, вандалізму ў адносінах да нашай прыроды, гісторыі, самой памяці народа.

Старшыня калгаса «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна **У. Балюк** расказаў пра поспехі працаўнікоў сваёй гаспадаркі, пра маральны клімат у ёй, пра стаўленне да зямлі, да сваёй працы. Калгас даўно знаходзіцца на поўным гаспадарчым разліку, развіта ў ім і арэнда, і калектыўны падрад. І гаварыць аб тым, што калгасы нібы не даказалі сваёй жыццяздольнасці, не трэба. На думку У. Балюка, менавіта на шляхах развіцця калектыўнай гаспадаркі можна вырашыць харчовыя праблемы. А калі ўжо гаварыць пра тое, што трэба зрабіць неадкладна, дык гэта забяспечыць вяскоўцу тыя ж умовы жыцця, якія мае сёння гараджанін.

У. Балюк падтрымаў думку аб тым, што становішча з роднай мовай трэба безумоўна выпраўляць, ухваліў прапанову аб устанаўленні спецыяльнай прэміі калгаса «40 год Кастрычніка» за лепшы твор, прысвечаны вёсцы.

**В. Якавенка** зрабіў крытычныя закіды ў адрас рэспубліканскага аграпрома. Ён звярнуў таксама ўвагу прысутных на складанасць радыяцыйнай абстаноўкі ў «забруджаных» раёнах рэспублікі.

**Н. Загорская** на прыкладах з Баранавіцкага раёна гаварыла аб тым, як губіцца прырода, як па-ранейшаму чэзнуць так званыя «неперспектыўныя» вёскі.

Асобныя праблемы жыцця вёскі і літаратуры аб ёй закранулі намеснік дырэктара Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна **І. Прылішч** і **М. Арочка.**

**Наш кар.**

**г. д. Але ўсяго гэтага мала. У нас не наладжана, напрыклад, вытворчасць аднаразавых шпрыцоў, інструментаў, якімі робяць прывіўкі ў дзіцячых садах, школах і якімі карыстаюцца ў бальніцах, паліклініках, лабараторыях, станцыях пералівання крыві, гумавых пальчатак для медработнікаў. А такія, здавалася б, бяскрыўдныя атрыбуты побыту, як манікюрныя нажніцы, лёзы ў цырульнях? Прыгадайце, дзе вы бачылі ў цырульнях стэрылізатары інструментаў? Бадай што нідзе.**

**Словам, усе гэтыя праблемы заклікамі не вырашыш. Нават сама сістэма прапаганды вымагае матэрыяльнай падтрымкі, затрат. Да таго ж, затрат немалых. Без грошай ніякай гаворкі не можа ісці пра навукова-даследчыя лабараторыі, абсталяванне сучаснай медыцынскай тэхнікай. А гэтае абсталяванне мы можам купляць пакуль што толькі за валюту, якой у дзяржавы на сённяшні дзень не хапае.**

**Што я асабіста прапаную? Стварыць грамадскі фонд барацьбы са СНІДам. Далучыць да гэтай справы буйныя прадпрыемствы рэспублікі, якія маюць вялікія даходы і валютны фонд. Тут можа праявіць ініцыятыву, напрыклад, «Інтурыст», які зарабляе грошы ў валюце. Увогуле, прыняць удзел у стварэнні гэтага фонду маглі б любыя арганізацыі, прадпрыемствы, установы, кааператывы, асобныя грамадзяне, якія лічаць, што выспела такая неабходнасць. Грошы павінны ісці на навуковыя даследаванні ў галіне барацьбы са СНІДам. Можна было б устанавіць стыпендыі для студэнтаў медыцынскіх і тэхнічных ВНУ, якія будуць спецыялізавацца на праблемах захворвання, на пошуках іх вырашэння. Сродкі дапамогуць у арганізацыі вытворчасці аднаразавых шпрыцоў, сістэм пералівання крыві, дыягностыкумаў і г. д.**

**Час не чакае. Чума XX стагоддзя — СНІД — патрабуе неадкладных дзеянняў і нашай ўсеагульнай заклапочанасці.**

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЛіМа».**

# ГАРАЧЫ ЛЮТЫ: ХТО ПЕРАМОЖА?

**(Пачатак на стар. 1).**

Тым не менш, атмасфера сходу была азмрочана, і ў многіх засталося пачуццё горычы і неўразумення. На жаль, і ў спрэчках нярэдка замест аналізу передвыбарчых платформ прапаноўваўся набор усхваленняў у адрас адных кандыдатаў і амаль лаянка, беспадстаўныя абвінавачанні ў адрас другіх. (Да прыкладу, прафесара Місюка спачатку папікнулі... узростам, а потым — тым, што ён займаецца кааператыўнай дзейнасцю). Магчыма, гэта і быў той плюралізм думак, пра які вельмі часта ўспаміналі на сходзе? Аднак перш, чым вучыцца дэмакратыі і плюралізму, не пашкодзіла б усім нам навучыцца паважаць адзін аднаго. Тут дарэчы згадаць словы з пастановы лістападаўскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС: «Кампанія павінна весціся ў межах сацыялістычнай маралі, на прынцыпах павагі гонару і годнасці кожнага кандыдата ў дэпутаты, усіх выбаршчыкаў».

Несправядліва было б, аднак, не сказаць, што ў многіх выступленнях былі выказаны разумныя думкі і цікавыя прапановы. Так, дэлегат ад калектыву Белдзяржуніверсітэта В. Ніжнікаў, некаторыя іншыя выказалі думку — а ці не больш лагічна аддаць канчатковае права выбару ўсім жыхарам акругі, а не некалькім сотням іх прадстаўнікоў? Тым больш, што закон дае магчымасць зарэгістраваць усіх вылучаных кандыдатаў. Думка гэтая, аднак, не знайшла падтрымкі ні ў членаў выбарчай камісіі, ні ў пераважнай большасці дэлегатаў. Адкрытым галасаваннем 361 дэлегат з 473 аддаў перавагу У. Галко. Больш палавіны — 265 галасоў сабраў таксама А. Новікаў. За Місюка прагаласавалі 212 чалавек, за Горбеля — 160, за Манаева — 141.

**Віт. ТАРАС.**

**ПРАЗ НАТОЎП ля дзвярэй Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў, дзе меў адбыцца перадвыбарчы акруговы сход па Мінскай — Першамайскай нацыянальна-тэрытарыяльнай выбарчай акрузе № 66, было не праціснуцца. Мяне, напрыклад, разоў дзесяць спынялі інтэлігентнага аблічча маладыя людзі, якія навыперадкі прапаноўвалі адозвы прэтэндэнтаў у дэпутаты. «Пазнаёмцеся з праграмай Юрыя Хадыкі!». «...Лабунова! Лабунова!», «...Велічанскага!», «...Чачына!», — гучала з усіх бакоў.**

**Бяру цэлы пачак «праграм», «адозваў», «платформ». Адны з іх надрукаваны «салідна», друкарскім спосабам, на добрай шчыльнай паперы, другія ўяўляюць сабой адбіткі ксеракопій, адна з праграм наогул надрукавана ў нумары універсітэцкага «Журналиста». Адным словам, хто як змог.**

**Калі б рэдакцыя загадзя не паклапацілася ў райвыканкоме аб пропуску для свайго карэспандэнта, мяне б на сход па службовым пасведчанні не прапусцілі. Кантроль быў жорсткі. Ля ўвахода ў будынак, калі прад'явіў пропуск, папрасілі паказаць яшчэ і пашпарт. Ля дзвярэй, што вялі ў залу, зноў амаль такі ж кантроль. Каго баяліся, ад каго хаваліся, я так і не зразумеў.**

**Цяпер пра ўражанне аб самім сходзе. Пачаўся ён у дзве гадзіны дня 13 лютага, скончыўся а палове першай ночы наступнага дня. Працягваўся больш як дзесяць гадзін!**

**Чым асабліва ўразіў сход? Шукаю слова, якім бы можна было вызначыць яго дамінанту. Зацікаўленасцю? Прынцыповасцю? Раскаванасцю? Дэмакратычнасцю? Так, дэмакратычнасцю. Ёсць нямала людзей, якія не стамляюцца папярэджваць аб «небяспецы» захаплення дэмакратыяй. Думаю, небяспекі такой няма. Дэмакратыі пакуль што нам не хапае. І сход, пра які я расказваю, яе прагнуў.**

**Асабліва цяжка «ішлі» працэдурныя пытанні. Як праводзіць выбары — адкрытым ці тайным галасаваннем? Члены акруговай выбарчай камісіі, якія кіравалі сходам, схіляліся да адкрытага. Маўляў, час позні, тайнае галасаванне зойме шмат часу. Не, — дружна пярэчыць зала, — толькі закрытым, так больш дэмакратычна. Прагаласавалі. Пераважная большасць дэлегатаў — за гэтую прапанову. Яшчэ большыя спрэчкі выклікала пытанне аб тым, колькі выбіраць кандыдатаў у дэпутаты — усіх шаснаццаць ці толькі двух. Прэзідыум сходу — за двух. Зала пратэстуе. Зала пераважнай большасцю галасоў за тое, каб галасаваць за ўсіх прэтэндэнтаў адначасова. Пройдзе той, хто набярэ больш паловы галасоў. І доўга бавіліся яшчэ з пытаннем — уключаць ці не ўключаць у спіс галасавання намесніка старшыні Дзяржбуда СССР Б. М. Ельцына, кандыдатура якога была вылучана на перадвыбарчым сходзе супрацоўнікаў акадэмічнага Інстытута цепла- і масаабмену. Ад Ельцына тэлеграма са згодай балаціравацца ў Мінску ў тэрмін не прыйшла, і гэта стала падставай для некаторых выступіць супраць яго кандыдатуры. І ўсё-такі сход пераважнай большасцю галасоў прымае рашэнне — галасаваць і за Ельцына.**

**Цяпер, відаць, пра самае галоўнае — пра перадвыбарчыя праграмы прэтэндэнтаў у кандыдаты, з якімі яны выступілі на сходзе. Хацеў было ўжо напісаць: пятнаццаць прэтэндэнтаў — пятнаццаць праграм, але спахапіўся... Будзем шчырымі, многім праграмам бракавала арыгінальнасці, глыбіні, змястоўнасці. У некаторых сваіх частках яны былі падобныя, як блізняты.**

**Але гучалі і праграмы, якія ўтрымлівалі глыбокія думкі, вызначаліся арыгінальнасцю і канструктыўнасцю. Сярод іх я б назваў праграму акадэміка АН БССР У. Лабунова, у якой галоўнае месца займала пытанне рацыянальнага выкарыстання ў народнай гаспадарцы сродкаў і людскіх рэзерваў, што вызваляюцца ад скарачэння Узброеных Сіл. З вялікай увагай удзельнікі сходу азнаёміліся з праграмай доктара фізіка-матэматычных навук Ю. Хадыкі, якая вызначалася смелай пастаноўкай праблем сацыяльна-эканамічнай і культурнай палітыкі. Пераканаўча гаварыў аб адраджэнні нацыянальнай культуры і мовы, аб гуманізацыі нашага жыцця ў сваёй праграме Генадзь Бураўкін. Досыць змястоўнымі былі праграмы інжынера завода «Тэрмапласт» У. Марчанкі, інспектара Міністэрства народнай адукацыі І. Велічанскага, рэжысёра «Беларусьфільма» М. Пташука і г. д.**

**І вось галасаванне. Закрытае, тайнае. Старшыня падліковай камісіі абвяшчае вынік — толькі адзін прэтэндэнт У. Лабуноў набраў больш за палову галасоў — 290 з 423. Менавіта ён і будзе зарэгістраваны як кандыдат у народныя дэпутаты па гэтай акрузе.**

**На заканчэнне вось пра што. З аднаго боку, сход прайшоў як быццам па-дзелавому, як быццам дэмакратычна. Калі, вядома, заплюшчыць вочы на той факт, што 26 сакавіка выбаршчыкі нацыянальна-тэрытарыяльнай акругі № 66, па сутнасці, будуць пазбаўлены магчымасці ВЫБІРАЦЬ — атрымаюць бюлетэні з адным-адзіным прозвішчам. З другога боку... Цяжка зразумець, як атрымалася, што не знайшла падтрымкі і разумення платформа аднаго з самых сур'ёзных прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат, вядомага нашага паэта і грамадскага дзеяча Г. Бураўкіна. Ці не паўплывалі ў дадзеным выпадку на выніке галасавання нігілістычныя адносіны часткі аўдыторыі да нацыянальнай інтэлігенцыі? Сказаць пра гэта дае падставу хоць бы той факт, што сёй-той з прысутных пярэчыў супраць праграмных заяў аб адраджэнні беларускай мовы і культуры.**

**АМАЛЬ восемсот дэлегатаў перадвыбарчага сходу Мінскай—Ленінскай тэрытарыяльнай акругі № 563 вырашалі пазаўчора лёс сямі прэтэндэнтаў у кандыдаты: пісьменніка Н. Гілевіча, гісторыка А. Грыцкевіча, інжынера-канструктара А. Дабравольскага, строгальшчыка А. Загорскага, ткачыхі Г. Сарокі, наладчыка М. Татуна і канструктара А. Ткача.**

**Сход пачаўся, як і ўсюды, з вырашэння працэдурных пытанняў. Старшыня акруговай выбарчай камісіі, першы сакратар Ленінскага райкома партыі В. Хомчанка з самага пачатку ўзяла валявы тон, чым адразу выклікала абурэнне часткі дэлегатаў, асабліва тых, што сядзелі на балконе. Пачуліся воклічы: «Патрабуем устанавіць у зале мікрафоны!». «Будзеце сядзець ціха, усё пачуеце», — «супакоіла» В. Хомчанка. Зала забурліла яшчэ больш. «Мікрафонаў у зале не будзе, іх у нас няма», — спыніла старшыня воклічы абурэння.**

**Першы са сваёй праграмай выступіў Ніл Гілевіч. Ён гаварыў аб ролі і статусе дэпутата вярхоўнага органа ўлады, яго адказнасці перад народам. Галоўнае, падкрэсліў прамоўца, не паабяцаць той ці іншай групе выбаршчыкаў, скажам, пабудаваць у іх бальніцу, школу ці дарогу, а змагацца за тое, каб жыццё наша стала лепшым паўсюдна. Н. Гілевіч гаварыў аб сваім падыходзе да вырашэння набалелых пытанняў эканамічнага, сацыяльнага, культурнага жыцця грамадства.**

**Адзін за адным выходзяць на трыбуну прэтэндэнты, знаёмячы прысутных са сваімі праграмамі. Па-рознаму рэагуе на іх аўдыторыя. Выступленне адных прамоўцаў сустракае апладысментамі і ўхвальнымі воклічамі, другіх — маўчаннем, шумам у зале. Як усё-такі важна для прэтэндэнта ўмець пераконваць людзей, знаходзіць з імі цесны кантакт і ўзаемаразуменне.**

**Такім уменнем, на маю думку, на гэтай сустрэчы валодалі і Н. Гілевіч, і А. Дабравольскі, і М. Татун, і А. Ткач.**

**Асабліва ўразіў Аляксандр Дабравольскі. І праграма ў яго была глыбокая і цікавая, і прамоўцам аказаўся добрым. Асабліва ўдала ён пераадолеў такое цяжкае для прэтэндэнтаў выпрабаванне, як адказы на пытанні дэлегатаў. На кожнае з іх А. Дабравольскі адказваў трапна, дакладна, дэманструючы глыбокае веданне прадмета гаворкі.**

**Вельмі зацікаўленай была рэакцыя залы на выступленне М. Татуна. Гаварыў ён без папер-шпаргалак, гаварыў раскавана, востра, часам надзвычай дасціпна, выклікаючы жывы водгук аўдыторыі.**

**Выбары. Яны праводзіліся адкрытым галасаваннем. Вось іх вынікі: больш як 50 працэнтаў галасоў атрымалі Н. Гілевіч, А. Дабравольскі і М. Татун. Яны прадстаўлены для рэгістрацыі ў акруговай выбарчай камісіі.**

**М. МІХАЙЛАЎ.**

# Сустрэча з Васілём Быкавым

**9 лютага заняткі ў гуртку палітвучобы, што праводзяцца ў рэспубліканскім Доме літаратара, мелі асаблівую адметнасць: іх «праводзіў» народны пісьменнік Беларусі, кандыдат у народныя дэпутаты СССР Васіль Быкаў. Так, менавіта яго запрасілі да сябе на сустрэчу гурткоўцы — супрацоўнікі перыядычных выданняў СП БССР, работнікі Дома літаратара, Бюро прапаганды мастацкай літаратуры, пісьменніцкай паліклінікі.**

**Выступленне пісьменніка закранула самыя розныя пытанні — ад «амерыканскіх уражанняў», прывезеных Васілём Уладзіміравічам з леташняй сесіі ААН, да нашых паўсядзённых — творчых, палітычных, эканамічных, экалагічных — праблем.**

**Перш за ўсё прысутныя цікавіліся паездкай пісьменніка ў Амерыку. Васіль Уладзіміравіч адзначыў, што паездка была, несумненна, вельмі цікавай, але кароткай: як вядома, савецкая дэлегацыя вымушана была вярнуцца дадому значна раней запланаванага тэрміну ў сувязі з армянскай катастрофай. Але два дні ў Амерыцы былі надзвычай насычанымі: выступленне М. С. Гарбачова ў ААН, прэс-канферэнцыя для амерыканскіх і замежных журналістаў, знаёмства з Нью-Йоркам...**

**Гутарка аб нашых унутраных справах пачалася з пытання аб нядаўняй сустрэчы М. С. Гарбачова з творчымі работнікамі ў ЦК КПСС. Хоць скарочаная справаздача аб ёй была змешчана ў друку, цікавасць да гэтай падзеі не паменшылася. Васіль Уладзіміравіч прыгадаў не надта аптымістычныя выступленні акадэміка Л. Абалкіна і В. Астаф'ева.**

**Працягваючы размову пра сустрэчу ў ЦК, В. Быкаў не абмінуў і праблему выразнай канфрантацыі пісьменніцкіх груповак, якія выказваюць самыя розныя, часам супрацьлеглыя думкі. На сустрэчы таму не была нечаканай прапанова М. С. Гарбачова пачаць «раззбраенне ў аднабаковым парадку» сярод інтэлігенцыі. Прапанова слушная, але, адзначыў В. Быкаў, яе не так проста рэалізаваць: у аснове сённяшняй канфрантацыі перш за ўсё — адносіны да сталінізму, а тут хутка і адразу ўсяго не паправіш, тым больш, што ні той, ні іншы бок не хоча здаваць свае пазіцыі.**

**Ажыўленне выклікала пытанне аб выбарах кандыдатаў у народныя дэпутаты. Васіль Уладзіміравіч адзначыў, што раз-**



**гортванне выбарчай кампаніі, першапачатковыя вынікі гэтай значнай падзеі ў рэспубліцы наводзяць на роздум, што ўрокі дэмакратызацыі даюцца нялёгка.**

**На жаль, пытанняў да госця аказалася чамусьці няшмат, у дадатак і тыя, што прагучалі, былі, калі можна так сказаць, без сённяшняй вастрыні і аголенасці. Апошняе, скажу шчыра, бянтэжыла, асабліва зважаючы на тое, што ў зале пераважалі людзі творчай працы.**

**М. КРАПАК,**
**наш кар.**

## З пошты «ЛіМа»

## ● КУЛЬТУРА СУПРАЦЬ ПРЫРОДЫ

## ● ВУЧЫЦЦА, КАБ ПЕРАВУЧВАЦЦА

## ● ЯК МЕНСК СТАЎ МІНСКАМ

□

Спалох і абурэнне — вось што адчула я, прачытаўшы ў газеце «Известия» ад 23 студзеня 1989 г. інфармацыю, а дакладней, невялічкае інтэрв'ю намесніка міністра культуры БССР У. Матвеева пад назвай «Парк цудаў пад Мінскам».

Як паведаміў намеснік міністра, «парк цудаў» або парк забаў («развлекательный парк») зойме плошчу каля 10 тысяч гектараў. Удумайцеся ў гэтую лічбу. Хіба ў нас у рэспубліцы, тым болей пад Мінскам, ёсць сёння столькі лішняй, «нічыйнай» зямлі, якую не шкода было б ахвяраваць на такую сумніцельную задуму? «Мы знайшлі вельмі зручную зону для такога парку, — кажа намеснік міністра. — Гэта — наваколле пасёлка Ракаў. Тут наўздзіў прыгожая мясцовасць: рачулка Іслач, вялікія лясы, вельмі багаты ландшафт. Да Мінска адсюль каля 30 кіламетраў...» Пра такія знаходкі кажуць: знайшоў сякеру пад лаўкай. Але ў дадзеным выпадку сякера чужая: 10 тысяч гектараў у ваколіцах Ракава — гэта ж, відаць, землі тутэйшых калгасаў і саўгасаў, якія ў іх збіраюцца не проста адабраць, але і знявечыць, збрыдзіць.

Басейн маленькай Іслачы і цяпер ужо перагружаны, бо тут размешчаны піянерскія лагеры, базы адпачынку, пансіянаты. А калі на тэрыторыі «парку цудаў» пабудаваць не толькі зону атракцыёнаў, але і кемпінгі, пансіянаты і гасцініцы для турыстаў, як «плануе» У. Матвееў, ды «сетку прадпрыемстваў грамадскага харчавання, у тым ліку і начных бараў, наладзіць рыначны гандаль», дык няцяжка ўявіць, у што ператворацца гэтыя ціхія мясціны і што застанецца ад іх прыгажосці. Ці можам мы дазволіць такі здзек над прыродай, ператварэнне яе ў «культурную пустэчу», калі ўсё менеи застаецца некранутых, незапаскуджаных чалавекам мясцін? І няўжо абавязкова «арганізоўваць» адпачынак на ўлонні прыроды менавіта такім «камфартабельным» чынам? Няўжо не лепей людзям, выбраўшыся за горад, чуць не скрыгатанне суператракцыёнаў і грукат камп'ютэрнай музыкі, а пошум лесу, спеў птушак і булькатанне ручая ці рачулкі? Няўжо трэба аддаць усё гэта на глум так званай цывілізацыі?

Апроч маральных і экалагічных меркаванняў, якія трэба паставіць на першае месца, нельга не задумацца і пра эканамічную мэтазгоднасць задумы Міністэрства культуры. Зноў гігантаманія, зноў даўгабуд? У. Матвееў кажа, што «парк цудаў» акупіць сябе за 5 год. А колькі год будзе будавацца? Вядома ж, што чым далей аб'ект будуецца, тым менш яго акупнасць. А колькі абслугоўваючага персаналу патрэбна для такога гіганцкага прадпрыемства індустрыі забаў? І дзе іх узяць? Зноў-такі адарваць ад тых самых мясцовых калгасаў і саўгасаў? А колькі трэба транспарту, каб вазіць усё, што трэба для гасцініц, гандлю, і перавозіць з Мінска тых 30—40 тысяч штодзённых наведвальнікаў, на якія разлічвае намеснік міністра? Дарэчы, сумняваюся, каб у нашым працоўным горадзе знайшлося ў буднія дні столькі жадаючых правесці свой час у *загарадным «парку цудаў»*. Не, нерэальна ўсё гэта. Лепш бы паклапаціцца як след пра ўтрыманне і ўдасканаленне тых гарадскіх паркаў, што ўжо існуюць, пастаянна ўзнаўляць іх зялёную апратку. З якой мэтай, напрыклад, была знішчана агароджа вакол парку імя Чалюскінцаў? Каб было вытаптана апошняе, што там расце?

У. Матвееў кажа, што «парк цудаў» уключае інтарэсы розных ведамстваў, ад прамысловых прадпрыемстваў да «Інтурыста», на іх сродкі, маўляў, і будзе будавацца. Што тычыцца «Інтурыста», спрачацца не буду, магчыма, яго кліентам гэта і можа быць цікава. Што ж да іншых, дык у сферы іх інтарэсаў, відаць, павінны ўваходзіць перш за ўсё ўстановы аховы здароўя, адукацыі і культуры як такой, нават калі яны і не будуць мець ад іх грашовых прыбыткаў, бо гэтыя ўстановы жыццёва неабходныя іх работнікам і жыхарам горада наогул. Хачу назваць установу культуры, якая патрабуе першачарговай і ўсеагульнай увагі. Гэта Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна, якая гібее на вачах насупраць гмаха, які разбудоўваецца вось ужо чвэрць веку.

А «парк цудаў», прадпрыемства спажывецкай культуры, задуманае ў нерэальна гіганцкіх маштабах, з пампезнасцю, якая больш адпавядае гадам застою, чым перыяду перабудовы, і на шкоду прыродзе, а значыць і чалавеку, мне *асабіста здаецца непатрэбным*. Калі эканоміка павінна быць экалагічна чыстай, дык культура тым болей. Хочацца спадзявацца, што грамадскасць абароніць той сапраўды цудоўны куток прыроды, на які замахваецца міністэрства.

**Юлія КАНЭ.**

г. Мінск.

□

Крыўдна робіцца, калі спробы адраджэння беларускай мовы натыкаюцца на глухую сцяну раўнадушша і недалёкасці.

Прызнаюся, у нашым калектыве былі прыемна здзіўлены, калі напярэдадні святкавання 70-годдзя БССР і КПБ упершыню за многія гады з райкома партыі паступіў вялікі заказ надрукаваць да свята прывітальныя паштоўкі, адрасы і запрашэнні па-беларуску. Дарэчы, урачысты сход, які потым адбыўся, выступленні дакладчыкаў, канцэрт гучалі на роднай мове. Ад усяго гэтага неяк пасвятлела на душы і здавалася, што, нарэшце, пачаўся працэс вяртання да родных моўных крыніц. Толькі я памыляўся.

Днямі зайшоў у нашу друкарню намеснік старшыні Пастаўскага гарвыканкома У. П. Кайровіч і прынёс заказ. Для правядзення традыцыйных святаў мікрараёнаў патрэбна было зрабіць афішы, эмблемы і бланкі запрашальных білетаў. Але ўсе арыгіналы зноў падаваліся па-руску.

Кажу наведвальніку, што добра, усё зробім, але давайце мы тэкст перакладзём і выдадзім прадукцыю на роднай мове. Толькі замахаў рукамі намеснік старшыні: «Нет, не нужно этого делать». І, гледзячы на мой разгублены твар, растлумачыў: «У нас там живёт многонациональный состав». Як я не пераконваў субяседніка, ён стаяў на сваім: «Нас могут не понять». Так агульнай мовы мы і не знайшлі.

Як жа так? Малады савецкі работнік (Кайровічу няма і 30), адукаваны, беларус, нарэшце, па нацыянальнасці, а займае такую дзіўную пазіцыю ў адносінах да роднай мовы. Ці не таму чытачы мясцовай раённай газеты працяглы час не могуць пачуць адказу з гарвыканкома наконт выступленняў аб беларускамоўным афармленні вуліц горада Паставы. Бо і ў нас амаль не сустрэнеш *шыльды ці аб'явы на роднай мове*.

**У. ШЫК,**
**дырэктар Пастаўскай узбуйненай друкарні.**

□

Нядаўна мы чыталі пастанову пра паляпшэнне выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школе. Гэта вынік тых дыскусій у рэспубліцы, якія ідуць не першы год. Пісалі «Звязда», «Чырвоная змена», «Настаўніцкая газета» і іншыя друкаваныя органы, а найболей «ЛіМ». Здавалася, ужо шмат хто прыслухаўся да голасу народа і перабудуецца ў духу патрабаванняў часу. Дык не. Уражанне такое, што нібыта трэба прымаць пастановы па кожнай асобна ўзятай навучальнай установе.

Еду з навучэнкамі Нясвіжскага педвучылішча, якое рыхтуе настаўнікаў менавіта для сельскіх школ Міншчыны. Разгаварыўся з імі, пацікавіўся, як вучыцца, ці цяжка.

— Цяжкавата даводзіцца, — пачуў у адказ. — Мы самі сельскія, выкладаюць жа нам усе прадметы па-руску, а як закончым вучылішча, дык зноў будзем пераключацца на сваю родную мову, толькі ўжо самастойна. Гаварылі нам, што будуць выкладаць па-беларуску, але ж усё застаецца па-ранейшаму.

Хацелася б пачуць адпаведны адказ з Міністэрства народнай адукацыі, Мінскага аблана, з самога вучылішча. Напэўна, такая ж сітуацыя і ў іншых сярэдніх спецыяльных навучальных установах, дзе ў мінулыя гады ішло інтэнсіўнае выцісканне беларускай мовы і літаратуры. Ва ўсякім выпадку, як мне вядома, у Маладзечанскім музвучылішчы, палітэхнікуме, улікова-планавым тэхнікуме і ГПТВ выкладанне гэтых прадметаў *ні на адну гадзіну не павялічылася*. А як у іншых месцах?

**Генадзь КАХАНОЎСКІ,**
**гісторык-краязнаўца.**

г. Маладзечна.

□

**Калі чалавеку спатрэбіцца тэрмінова атрымаць якую-небудзь даведку па сталіцы БССР, то ён абавязкова звернецца да энцыклапедычнага даведніка «Минск». Але нават у гэтым вельмі сур'ёзным і кампетэнтным выданні ён не знойдзе адказу на пытанне, чаму старажытнаславянская назва нашага горада «Менск» ператварылася ў «Мінск».**

**Большасць сучасных даследчыкаў лічыць, што назва горада звязана з імем ракі Менкі, на якой стаяў летапісны «Мъньск», які быў упершыню адзначаны ў «Повести временных лет» пад 1067 г. (гл.: Нерознак В. Названия древнерусских городов. М., 1983). Калі мы звернемся да беларуска-літоўскіх летапісаў (*ПСРЛ*, тт. 32, 35), то там можна ўбачыць назвы «Менск», «Меньск», «Менеск». У актавых матэрыялах Вялікага княства Літоўскага, якія былі запісаны на беларускай мове, слова «Менск» ужывалася да 17 ст. З дакументаў яно паступова знікае толькі ў другой палове 17 ст., калі справаводства ў дзяржаве было пераведзена на польскую мову. Тады старажытная назва «Менск» у польскай транскрыпцыі ператварылася ў «Mińsk», і каб не пераблытаць яго з Міньскам-Мазавецкім, што ў Польшчы, то часам ужывалася і назва «Міньск Літэвскі».**

**У канцы 18 ст. Менск далучылі да Расійскай імперыі, царскія чыноўнікі механічна перанеслі «польскі» горад «Mińsk» на тагачасныя карты Расіі.**

**У такім варыянце назва «Менска» праіснавала да 1917 г. Толькі пасля рэвалюцыі, калі зніклі цэнзурныя рагаткі, пачала адраджацца старажытнаславянская назва «Менск». З кожным днём яна ўсё часцей сустракалася на старонках беларускамоўнага друку.**

**Упершыню ў афіцыйных дакументах Савецкай улады назва горада «Менск» была ўведзена 1 студзеня 1919 г. Гэта быў «Маніхвэст часовага работніча-сялянскага савецкага правіцельства Беларусі». Пасля гэтага ва ўсіх беларускамоўных выданнях, якія друкаваліся кірыліцай альбо лацінкай, запанавала аднаўленае старажытнае імя сталіцы Беларусі.**

**Яно было афіцыйна замацавана ў Канстытуцыі 1927 г.: «Сталіцай Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі з'яўляецца горад Менск». Новая Канстытуцыя 1938 г., якая стваралася ў *самыя змрочныя* часы сталіншчыны, паўтарыла гэтую назву сталіцы нашай рэспублікі ў арт. 121. Цікава, што ў той час быў выдадзены 39 том Большой Советской Энциклопедии (М., 1938), дзе адпаведны артыкул, прысвечаны сталіцы БССР, пачынаўся словамі: «Минск (по-белорусски Менск)...»**

**Раптам у сярэдзіне 1939 г. назва «Менск» знікае са старонак газет, даведнікаў, беларускіх карт і г. д. Чаму і як гэта здарылася?**

**Адназначнага адказу на гэтае пытанне пакуль што няма. Вядома толькі, што рашэнне аб змене назвы сталіцы рэспублікі прыняла 2-я сесія Вярхоўнага Савета БССР, якая праходзіла 25—29 ліпеня 1939 г. Вось радкі са стэнаграфічнай справаздачы: «Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР таксама прызнаў неабходным змяніць існуючае беларускае найменаванне сталіцы БССР, устанавіўшы найменаванне «Мінск» замест «Менск»... Хто за зацвярджэнне пункта 7-га праекта, прашу падняць рукі. Апусціце. Хто супраць? Няма. Хто ўстрымаўся? Няма. Зацвярджаецца аднагалосна». Вось і ўсё. Так быў зменены артыкул 121 Канстытуцыі БССР. Дэпутатам не спатрэбілася ніякіх тлумачэнняў. «Прэзідыум... прызнаў неабходным» — у той час гэтага было дастаткова. Але не будзем абвінавачваць дэпутатаў. Яны добра ведалі, што ў Курапатах кожны дзень працаваў канвеер смерці, і таму любое пытанне магло быць апошнім. Цікава, што на гэтай сесіі, таксама аднагалосна, быў зацверджаны на пасаду наркома НКУС будучы кат беларускага народа Л. Цанава.**

**Зараз *можна* толькі здагадвацца аб прычынах, якімі кіраваліся тагачасныя кіраўнікі Беларусі, змяніўшы назву сталіцы. Матэрыялы Вярхоўнага Савета БССР і Мінгарвыканкома за 1939 г. у архівах не захаваліся, а тагачасныя газеты змясцілі толькі кароткую сухую інфармацыю.**

**Трохі святла на гэтае пытанне пралівае запіс, зроблены К. Чорным у сваім нататніку «Мова»: «Людзі, якія не ведаюць ні законаў мовы, ні гісторыі Беларусі, ні самой мовы — ні беларускай, ні польскай і ні рускай (жаргон, на якім яны гавораць і пішуць, нельга назваць мовай), здолелі, на вялікі жаль, устанавіць правіла *пісаць не Менск і не Навагрудак*, як пішацца ў рускіх, беларускіх, славянскіх летапісах, а «Мінск», «Навагрудак», гэта значыцца — у польскім вымаўленні. І гэтыя людзі шчыра верылі, што яны змагаюцца гэтым мерапрыемствам з уплывам польскай мовы на мову беларускую...» («Полымя», 1965, № 4). Дарэчы, сам К. Чорны да апошніх дзён свайго жыцця (прыгадаем, што ён памёр у 1944 г.) ужываў назву «Менск».**

**Вось так і была рэпрэсіравана ў 1939 г. назва нашага славутага горада. Сёлета ў нас ёсць магчымасць адзначыць 40-гадовы юбілей гэтай сумнай падзеі. Можа, ёсць сэнс вярнуць нашай сталіцы яе старажытнае імя?**

**У. ДЗЯНІСАЎ,**
**гісторык.**

г. Мінск.

□

Цяпер шмат гавораць і пішуць пра 30—50-я гады ў гісторыі СССР — калектывізацыю, індустрыялізацыю, перагібы, рэпрэсіі і г. д. Усё гэта, натуральна, звязана з іменем Сталіна. Пра яго таксама напісана вельмі і вельмі многа. Мы ведаем пра дзіцячыя гады будучага «бацькі ўсіх народаў», яго заслугі і злачынствы ў сталыя гады, пра апошнія месяцы жыцця старога генералісімуса. Аднак усё гэта толькі факты. А цэласнай жа, узаемазвязанай карціны жыцця Савецкай краіны ў 30—50-я гады мы пакуль яшчэ не маем.

Настаў час абагульненняў, стварэння навуковай канцэпцыі нашай нядаўняй гісторыі.

Не зашкодзіла б гісторыкам і спецыяльная работа пра Цанаву, які пакінуў свой крывавы след у нас, у Беларусі. Тым больш, што архівы рэспублікі маюць дастатковую колькасць матэрыялу аб дзейнасці НКУС у БССР. Акрамя гэтага, ёсць відавочцы падзей тых гадоў.

Мы дагэтуль не ведаем колькасці асуджаных і расстраляных органамі НКУС ні ў чым не вінаватых беларускіх людзей. Аднак матэрыялы ЦДАКР БССР па гэтым перыядзе ў асноўным засакрэчаны. Да якога часу? Ці ж не ідзе гэта ўразрэз са словамі У. І. Леніна аб тым, што архівы павінны быць заўсёды і цалкам даступны даследчыку, з палітыкай дэмакратызацыі і галоснасці?

**С. ТАЛЯРОНАК,**
**гісторык.**

г. Мінск.

□

**Шматлікія аўтары «ЛіМа» раяць пачынаць з падмурка: са школы. Весці ў школе выкладанне ўсіх прадметаў на беларускай мове. Гэта добра, але зусім недастаткова. Вось я, напрыклад, закончыла вясковую школу з выкладаннем на беларускай мове, а зараз з цяжкасцю скажу два словы на гэтай мове. І справа тут не толькі ў тым, што я, можа, не патрыётка. Наадварот, я б хацела гаварыць па-беларуску, але з кім? Я жыву ў пэўных умовах, дзе ўсе на працы, на адпачынку, у сям'і гавораць па-руску. Гэта ўжо ці не традыцыя, а традыцыі, як вядома, вельмі жывучыя.**

**Як медык, мушу засведчыць, што моўнае перавучванне - адвучванне бясследна не праходзіць для псіхікі чалавека. Са стратай роднай мовы губляюцца нейкія няўлоўныя сувязі з навакольнай прыродай, адценні пачуццяў, эмоцый. Звярніце ўвагу: па тэлевізары паказваюць чалавека, які гаворыць па-беларуску, а думае, па ўсім відаць, па-руску. З якой цяжкасцю ён падбірае словы, а твар у яго такі напружаны, пакутніцкі!**

**У сувязі з гэтым у мяне ёсць меркаванне. У Мінску жыве і працуе вялікая колькасць людзей, прафесійныя абавязкі якіх абавязваюць іх ведаць і карыстацца беларускай мовай. Напрыклад, прыходзіць да нас хворы, з карткі бачу, што чалавек працуе ў сферы, звязанай з нацыянальнай культурай, а гаворыць па-руску. А каб усе яны заўсёды і ўсюды гаварылі па-беларуску, то гэта было б найлепшым прыкладам для астатніх мінчан-беларусаў. А то атрымліваецца разыходжанне слова і справы: агітуюць за адно, а робяць другое.**

**Па маіх сціплых падліках, каб уся наша інтэлігенцыя, якая есць хлеб з беларускай культуры, загаварыла па-беларуску, то ў кожным аўтобусе і тралейбусе сталіцы было б па два чалавекі, якія размаўляюць на роднай мове. Дзе ж яны?**

**Н. МАСУНОВА,**
**медсястра.**

г. Мінск.

 

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# МІЖ БЫЛЫМ І НАСТУПНЫМ

СШЫТАК ПЕРШЫ

**Гадоў пяць назад пачаў я занатоўваць свае думкі і меркаванні наконт некаторых жыццёва важных для нашай рэспублікі праблем — тых, што пачалі вырашацца сёння, але і маюць больш ці менш працяглую будучыню. З гэтай своеасаблівай нататачнай публіцыстыкі склалася цэлая кніга, фрагменты з якой і хачу прапанаваць чытачам тыднёвіка.**

**Аўтар.**

САЦЫЯЛІЗМ — гэта такая эканамічна-сацыяльная сістэма і такі грамадска-палітычны лад, дзе ўсё падпарадкавана адной мэце — павышэнню дабрабыту і культуры чалавека, а дакладней — духоўнаму (маральнаму, эстэтычнаму) росту асобы. Калі такога росту асобы (а праз кожную асобу — усяго грамадства) не назіраецца, тады траціць сэнс усё іншае, што выдаецца за перавагі сацыялізму: спосаб вытворчасці, умовы працы, прынцыпы арганізацыі ўзаемаадносін у грамадстве і г. д. Само сабой — траціць значэнне высокія эканамічныя паказчыкі, гіганцкі размах прамысловага будаўніцтва, поспехі навукі і тэхнікі, небывалы агульны ўзровень адукацыі і іншыя гэтак званыя сацыяльныя заваёвы. Траціць — бо становяцца самамэтай, складваецца становішча, якое можна ахарактарызаваць формулай «вытворчасць дзеля вытворчасці» (як мастацтва дзеля мастацтва), калі прадукцыйныя сілы менш за ўсё працуюць на чалавека, на задавальненне яго духоўных патрэб. Па ідэі, у фокусе сістэмы павінна быць менавіта асоба чалавека, але на сённяшні дзень яна з гэтага фокусу фактычна выведзена,— па прычыне страшэннага перакосу ў бок самамэтнага развіцця сродкаў вытворчасці. Ну, сапраўды, калі 84 працэнты ўсіх сродкаў вытворчасці ў краіне выкарыстоўваюцца для вытворчасці сродкаў вытворчасці, то што ж застаецца для развіцця дабрабыту і культуры чалавека? Ці можа тых астатніх мізэрных працэнтаў хапіць, каб задаволіць сацыяльныя і духоўныя патрэбы людзей, каб зрабіць іх жыццё культурна змястоўным, цікавым, радасным, каб, скажам іначай, чалавеку было ўтульна і хораша на зямлі? Вядома ж, не можа, а ў выніку — не хапае прадуктаў, тавараў, бальніц і санаторыяў, школ і дзіцячых садоў, а ўжо — і чыстай вады і чыстага паветра... І глядзіць чалавек на маштабы сваёй стваральнай і пераўтваральнай дзейнасці, на велічэзныя карпусы машынабудаўнічых заводаў, хімічных камбінатаў і электрастанцый, у тым ліку — атамных, на мільённатонныя горы ўгнаенняў, на магутныя, вышынёй з двухпавярховы дом, самазвалы і яшчэ больш магутныя бульдозеры, што бязлітасна нявечаць аблічча яго роднай матухны зямлі,— глядзіць і думае: «А дзеля чаго ўсё гэта? Якая канчатковая мэта? Здаецца ж, у праграме сацыялізму сказана, што канчатковая мэта — я, чалавек, дзеля мяне рабілася і рэвалюцыя і прадумваўся ўвесь навукова-тэхнічны прагрэс. Ці не пара, нарэшце, мне адчуць гэта?.. Калісьці, на пачатку новай эры, калі закладаліся асновы індустрыялізацыі, узровень вытворчых сіл быў у шмат разоў ніжэйшы, чым цяпер, і было мне досыць цяжка, часам — нават вельмі цяжка, але я трываў, бо верыў у «светлае заўтра», верыў, што яно не за гарамі, вось-вось наступіць, і я парадуюся яму, а тым больш парадуюцца мае дзеці і ўнукі... Аднак прамінулі многія дзесяцігоддзі, я ўжо састарыўся, і дзеці ўжо мае — пажылыя людзі, і ўнукі дарослыя, а ці магу я сказаць, што ўсё, што я сёння бачу,— гэта і ёсць тое «светлае заўтра», пра якое мы марылі і дзеля якога цярпелі-трывалі ў маладосці? Так, жыву я нібыта бязбедна, не галадаю, не жабрую, але... калі гэта тое — дык чаму тады ў мяне столькі цяжару на душы? Цяжару ад таго, што многага ў нашым жыцці я проста не магу зразумець і чуюся, як без віны вінаваты. Напрыклад, ужо дзесяткі гадоў я ем куплены за акіянам хлеб: свайго не хапае. І столькі ж гадоў я стараюся купіць адзенне і абутак замежны, імпартны, бо ён лепшы, зграбнейшы за наш айчынны. Але ж я ніколі не быў гультаём-абібокам, я заўсёды любіў і ўмеў працаваць! Што ж са мною і маімі дзецьмі здарылася? У Злучаных Штатах Амерыкі такія, як я, аказваецца, працуюць непараўнана лепш! У прамысловасці там прадукцыйнасць працы вышэй удвая, а ў сельскай гаспадарцы — у чатыры і нават у чатыры з палавінай раза. Гэта ж выходзіць, што нам ганьба. Дый вялікая! Усяго здабываем за іх, амерыканцаў, больш — і руды, і нафты, і вугалю, і электраэнергіі, а куды і на што яно ўсё ідзе, чаму гэтага «больш» я ў сваім паўсядзённым жыцці не адчуваю, — зразумець не магу...»

Так разважае, гледзячы на поспехі тэхнічнага прагрэсу, на аб'яўлены індустрыяй смяротны прысуд прыродзе, просты працоўны чалавек. Сёння ў яго на душы, думаю, усё-такі лягчэй, бо гэтыя свае думкі, свае вялікія і балючыя сумненні ён можа выказаць уголас, публічна. А гэта — вельмі многа значыць, вельмі-вельмі! Шчыра кажучы, у гэтым найпершая і галоўная зарука таго, што чалавек, разам з тысячамі і мільёнамі такіх, як ён, здзейсніць радыкальныя перамены: вытворчасць сродкаў вытворчасці будзе абмежавана, а значна расшырыцца вытворчасць для чалавека, для задавальнення яго сацыяльных і культурных патрэб, дзеля духоўнага росту яго асобы. Бо на сцягу сацыялізму напісана якраз гэта.

□

**Колькі даводзілася бачыць, як іншыя кіраўнікі дзяржаўных устаноў або адказныя партыйныя работнікі спяшаюцца з ацэнкамі і вывадамі ў сферы духоўнай культуры, як яны не жадаюць лічыцца з грамадскай думкай. А між тым думка творчага калектыву, саюза, як і асобных відных дзеячаў культуры, нешта павінна значыць. Усё-такі гэты дзеяч — пісьменнік, мастак, артыст, — па-першае, сам надзелены выдатным талентам, значыць і выдатным мастацкім густам, беспамылковай інтуіцыяй, прыроднай мудрасцю, а па-другое, — усё жыццё штодзённа, штохвілінна жыве мастацкай творчасцю, тымі духоўнымі праблемамі, якімі таварышы адказныя «займаюцца» на службе «ад і да» па абавязку. Наколькі глыбока пры гэтым яны ўнікаюць у праблему — пытанне асобнае. У такім разе адмахвацца ад думкі людзей творчых, якім «праблема» баліць дый вельмі моцна, — мякка кажучы, неразумна, не на карысць справе, грамадству, краіне. «Не раздзімайце і не завастрайце праблемы, яе ў нас няма!» — зноў і зноў чую перасцерагальны, часам не без металу ў голасе, вокрык. А між тым — праблема ўсё-такі ёсць. Заяўляць, што яе няма — значыць заганяць хваробу ўнутро, і такім чынам даваць гэтай праблеме магчымасць усё больш і больш разрастацца — аж да крайняга, выбуховага абвастрэння сітуацыі. Дзе ж партыйная і дзяржаўная мудрасць у такой пазіцыі, ды і адказнасць? Станеш пра гэта публічна, уголас гаварыць — таварышы пачынаюць злаваць, раздражняцца. А раздражняцца не трэба, трэба прыслухоўвацца да голасу грамадскасці і думаць, як быць, што рабіць, каб у выйгрышы ў рэшце рэшт аказаўся народ і яго культура.**

□

Даўно наступіла пара разбураць догмы — нібыта навукова абаснаваныя палітычныя, сацыяльныя і маральныя догмы, устаноўкі, законапалажэнні. Якія канкрэтна? Ды іх вельмі шмат! Ну, напрыклад, устаноўка на тое, што калі ты не член партыі, то табе нельга даверыць больш-менш адказную дзяржаўную або грамадскую пасаду. Няхай сабе ты выдатны спецыяліст, ідэйна і маральна бездакорны грамадзянін, перакананы патрыёт,— няважна, ты — беспартыйны, і табе недавер. Успамінаю, як Янку Брыля, не дапускаючы думкі, што такі слынны пісьменнік і станоўчы чалавек, — беспартыйны, угаварылі заняць пасаду галоўнага рэдактара выдавецтва. Праз дзень, спахапіўшыся, далі адбой, нанёсшы тым самым вялікую абразу чалавечай і грамадзянскай годнасці пісьменніка. Ці трэба пасля такога здзіўляцца, што ў народзе пачынаюць хадзіць іранічныя прымаўкі пра «партыйнага дурачка»? Няхай дурачок, няўмека і недарэка — затое з білетам у кішэні. А іншы менавіта таму і з білетам, што добра ведае сябе: я — дурачок, няўмека і недарэка, і без білета буду есці хлеб толькі цяжка запрацаваны.

□

**Карані і прычыны многіх негатыўных з'яў бачаць нярэдка толькі і толькі ва ўмовах грамадскага жыцця двух апошніх дзесяцігоддзяў — у гэтак званым перыядзе застою. Ці так гэта ў сапраўднасці? Што датычыць сферы духоўнай (маралі, культуры, ідэалогіі), то, думаю, некаторыя нашы беды пачаліся, можа, і пяцьдзесят і ўсе шэсцьдзесят гадоў назад. Спісваць іх толькі на брэжнеўшчыну — так мы да поўнай ісціны не дойдзем. Калі, напрыклад, пачаліся ў нас варварскія адносіны да помнікаў культуры? Дзе вытокі таго вандалізму, які працягваюць сучасныя герастраты? Калі ўзяліся — пад відам барацьбы з рэлігіяй — руйнаваць або ператвараць у стайні старажытныя храмы — дзівосныя помнікі нацыянальнага дойлідства? Хіба пры Брэжневе, а не ў 20-я і 30-я гады? Хто былі тэарэтыкі і ініцыятары гэтага страшэннага разбуральнага руху, гэтага вынішчэння і апусташэння духоўнай культуры народа? Трэба абавязкова вывучыць і прааналізаваць вытокі гэтага працэсу, што больш паўстагоддзя садзейнічаў ды і працягвае садзейнічаць заняпаду народнай маралі і эстэтыкі. Трэба абавязкова ва ўсім гэтым разабрацца — калі мы хочам згубны працэс запыніць і даць дарогу іншым, сапраўды творчым сілам.**

**Або: калі пачалося ў нашых вёсках, у душах хлебаробаў выветрыванне любові да зямлі і працы на зямлі? Дзе вытокі сённяшняй, хочацца сказаць — усенароднай, абыякавасці, нячуласці і жорсткасці ў дачыненнях да прыроды? Некаторыя творы нашых лепшых пісьменнікаў часткова адказалі на гэта: напрыклад, «Па праву памяці» А. Твардоўскага, «На Іртышы» С. Залыгіна, «Кануны» В. Бялова, «Знак бяды» В. Быкава... Але ўся работа — і для пісьменнікаў і для вучоных — яшчэ наперадзе. Работы тут яшчэ непачаты край. Тым больш, што паварот да вытокаў народнай духоўнасці і маралі, да вечна жывога сумлення — як яго адвеку разумелі ў народзе, і нават само ўскрыццё прычыны яго атрафіравання і заняпаду, — сустракае стойкае і арганізаванае супраціўленне кансерватыўных, мякка кажучы, сіл.**

□

Што значыць — вырашыць з ленінскіх пазіцый нацыянальнае пытанне ў краіне? Гэта значыць, трэба, каб народ у рэспубліцы чуўся поўным гаспадаром і сам распараджаўся сваім лёсам. Бо як ён дасягне ва ўсіх сферах жыцця ладу, калі нібыта выбраны ім Вярхоўны Савет не можа праявіць самастойнасці, не можа ад імя народа нечаму запярэчыць, з нечым не пагадзіцца? Хіба гэта нармальна, што чыноўнік саюзнага міністэрства выбірае на карце краіны пункт, тыкае, груба кажучы, пальцам — і вось у Драгічыне, у нерушна-чыстым кутку Палесся, пачынаюць будаваць страшны біяхімічны завод. Насельніцтва абурана, пратэстуе — а завод будуецца. Або ці здарылася б гэта трагедыя з Аралам, з землямі Каракалпакіі і з жыхарамі рэспублікі, калі б сам каракалпацкі народ — патомкі тых, хто ў стагоддзях бераглі і песцілі гэты аазіс, — быў на сваіх землях гаспадаром? Калі б усемагутныя міністэрствы і ведамствы не навязалі яму праекты і планы эканамічна-сацыяльнага пераўтварэння краю? Або: колькі разоў на камісіі Вярхоўнага Савета БССР я падымаў пытанне аб беларускіх школах у рэспубліцы, а мне ў адказ адно і тое ж: ёсць усесаюзны закон аб народнай асвеце, які мае сілу і для нас. Але чаму сам беларускі народ не вырашае, на якой мове вучыць яму сваіх дзяцей, якою мовай у сябе дома карыстацца ў справаводстве? На ўвесь свет заяўляем: БССР — суверэнная дзяржава, а гэта дзяржава не можа нават забяспечыць народу права на сваю мову. Як гэта разумець і як можна мірыцца з гэтым? Нехта лічыць, што так патрэбна, што так лепш? Каму, дазвольце запытаць, патрэбна? Для каго — лепш? Для Беларусі? Для нашай культуры? Для лёсу нашае сацыялістычнай нацыі? Ці, можа, для дружбы народаў? Для прагрэсу сусветнай культуры?.. Пара, нарэшце, разабрацца ў гэтым разумна, па-чалавечы.

□

**Дзіўная рэч: халтура ў кіно і на тэлебачанні становіцца больш ваяўнічай і агрэсіўнай, чым раней — да пачатку перабудовы. Здавалася б, дэмакратызацыя і публічнасць дадуць магчымасць здаровым крытычным сілам выкрываць і цясніць яе прэч, каб даць дарогу мастацтву сумленнаму і таленавітаму. Але, мабыць, халтуршчыкі, а яны ўсе і заўсёды — прыстасаванцы, аказаліся лепш падрыхтаванымі да перабудовы — да выкарыстання новых магчымасцей. Асабліва непрыемна бачыць, як завіхаюцца на экране ці каля яго людзі цынічныя, рознага рангу блатмайстры ад мастацтва. Глядзіш — і нутром адчуваеш іх маральную нечыстаплотнасць. Часам аж душу табе дзярэ — столькі бесцырымоннага нахабства, бяздарнага крыўляння і прэтэнцыёзнасці выдаецца за сучаснае мастацтва. І самае крыўднае, што ўсё гэта прыкрываецца сцягам перабудовы.**

□

Пытанне пра светапоглядныя пазіцыі пісьменніка, пра духоўныя, маральна-філасофскія пошукі яго герояў, — пытанне складанае. На жаль, замест спробы сур'ёзна разабрацца ў ім усё яшчэ прыходзіцца бачыць папрокі і амаль вокрыкі артадаксальных дыпламаваных атэістаў. Паўтараюцца агульнавядомыя цытаты і збітыя штампы, але няма глыбокага навуковага аналізу рэальнасцей канкрэтнай гістарычнай эпохі — такога аналізу, каб было бачна, адкуль што пачалося і чаму да гэтага прыйшло. Чаму, напрыклад, наогул ускладнілася ў нашай шматнацыянальнай краіне светапоглядная сітуацыя?

Мы і сёння не гаворым усю праўду аб тым, што ў нас працягваецца пачаты ў 20-я гады працэс гвалтоўнага насаджэння вульгарнага атэізму, які — давядзецца аднойчы нам прызнаць — нанёс значна больш шкоды ідэйна-маральнаму стану грамадства, чым наіўная чалавечая вера ў «божаньку». Некаторыя пісьменнікі, — б'е ў гонг заслужаны дзеяч атэізму, — неабачна пераключаюцца з ідэі сацыяльнага пераўтварэння на ідэю «пераўтварэння душы», а гэта, на яго думку, недапушчальна, бо — вельмі небяспечна, бо — «ідзе ўразрэз», бо можа завесці нас у ідэалістычны тупік. Хочацца сказаць «заслужанаму»: дык жа вялі сацыяльныя пераўтварэнні ўсе семдзесят гадоў, вялі! Але, відаць, вельмі часта забываючы пра душу і не ў імя яе ўзвышэння. Бо інакш чаму столькі «душ» спілося, столькі пусцілася ў палавую распусту (аж да прастытуцыі), у хуліганства і зладзейства, у нарkаманію? Чаму столькі душ страцілі здольнасць чырванець ад сораму? Дык што, паважаны заслужаны: будзем ажыццяўляць вызначаныя жыццёвыя мэты без «пераўтварэння душы»? Аб'яднанымі сіламі алкашоў і прастытутак, цынікаў і дармаедаў? А самая галоўная мэта наша — мэта сацыялістычнага грамадства — якая? У чым яе сутнасць? Хіба не ў «пераўтварэнні душы»? Не ў тым, каб чалавечая асоба дасягнула поўнага духоўнага росквіту? Хіба наш ідэал — толькі забеспячэнне матэрыяльнага дастатку?

Наогул пра нашу народную славянскую душу даўно пара задумацца. Крайняя пара! Адкладаць надалей няма куды. Трэба даць самім сабе адказ: што з нашай душою робіцца і ў што яна ператвараецца, калі яе пазбавіць сумлення і веры ў ідэал? Баюся, што здольнасці нейчай душы да адаптацыі мы безразважна перанеслі на сваю душу, якая да падобнай адаптацыі зусім не здольная. Ведаю, што гэта «баюся» гаварылі да мяне многія і даўно. І аднак жа!.. А што рабіць, калі жыццё — вось яно, перад вачыма, і менавіта яно задае пытанне?..

□

**Як лёгка сёй-той прэтэндуе на веданне ісціны поўнай і канчатковай, на права чыніць суд ад імя класікаў марксізму-ленінізму, ад імя самой Савецкай улады! І толькі таму, што воляй лёсу і дзякуючы асабістаму спрыту апынуўся ў наменклатурным крэсле. Адкуль гэта прэтэнцыёзнасць, гэта прага дыктаваць і камандаваць? Ад нізкай унутранай культуры. Ад браку інтэлігентнасці. Ад невуцтва. Нешта некалі таварыш закончыў, прачытаў перад экзаменамі брашуркі, дзе ў дзесятым пераказе разжоўваліся цытаты з класікаў, атрымаў «коркі» — вось і дастаткова, каб гаркнуць: «Не туды хіліце! Не дазволім!..» І гаркае. Як нядаўна ў друку на Чынгіза Айтматава. Сумна, вядома. І горка. І сорамна. І маладая настаўніца з Тульскай вобласці гэта разумее. У лісьме ў «Новый мир» яна піша: «Он большой художник и человек больной совести». Зусім правільна: гэта прызнана не толькі нашым народам, але і цэлым светам. Дык, можа, перш за ўсё паспрабуем услухацца ў тое, што гаворыць вялікі мастак і чалавек балючага сумлення? Ды пастараемся хоць трохі наблізіцца да ўзроўню яго разумення тых праблем, якія ён трактуе?**

**Бяда, аднак, у тым, што перавыхаваць закончанага, ды яшчэ наменклатурнага, хама — справа амаль безнадзейная.**

□

Аднаўленне сацыяльнай справядлівасці... Калі ва ўсім і ўсюды — якое ж трэба пера-

**(Працяг на стар. 12).**



 

# РАДЗІМЫ ЧЫРВОНЫ ЦВЕТ



**Штрыхі да творчага партрэта Уладзіміра АРЛОВА**

БЫВАЕ, што прачытаеш, здавалася б, грунтоўны том, а так і не зразумееш, дзеля чаго ён усё-такі напісаны.

Між тым нават невялікае апавяданне валодае здольнасцю выразна акрэсліць, выявіць творчае і жыццёвае крэда пісьменніка. Як, напрыклад, «Кроніка Лаўрына Баршчэўскага, рукапіс, знойдзены на гарышчы» Уладзіміра Арлова. «Так доўга ваявалі мы ў чэшскай зямлі, што з'явіліся паміж нас такія, што забываліся мовы сваёй, і вучыў іх я, што няможна чалавеку забываць, хто ён ёсць і з якога ён народа,— разважае герой апавядання,— бо за пашану да свайго будуць ганараваць нас людзі з іншых краёў, бязродных жа ніхто не ўшануе. І вучыў я іх, што нельга выракацца тае мовы, з якой ты на свет прыйшоў, бо пусціш у душу мову чужую, і душа твая зменіцца, і не станеш ужо тым, кім на раду табе напісана, а гэта грэх вялікі перад усім светам, бо не скажаш тады свайго слова запаветнага і не зробіш тое, што пасланы ты на зямлі зрабіць...»

О, як гэта заўсёды было складана: вернасць уласнаму лёсу, настойлівы пошук адзінай сваёй сцяжыны, каб улілася пакрысе ў агульны чалавечы шлях. І сёння нам, сведкам і ўдзельнікам навукова-тэхнічнага ўзлёту, але і сведкам вялікага сораму яго, каб спраўдзіцца, адбыцца ў гэтым камфортным ды такім зараз уніфікаваным свеце, бадай, жыццёва неабходна звяртацца да сваіх вытокаў, крыніц. Часцей прыслухоўвацца да славутых суайчыннікаў і вось такіх літаратурных герояў, як Лаўрын Баршчэўскі, ад імя якога апавядае У. Арлоў.

Лёс віцябчаніна пачатку 15 стагоддзя, «бакаляра ў навуках вызваленых» — падзейная канва, праз якую густа прарастае ўсеагульная чалавечая мудрасць. У цяжкую эпоху выпала нарадзіцца Лаўрыну Баршчэўскаму. Шчодра лілася кроў беларусінаў, бо не маглі мірам падзяліць між сабой уладу вяльможныя князі-родзічы. І чаргаваўся год за годам, калі люты голад нішчыў чалавечыя жыцці. У гэты час пад Грунвальдам славяне пабілі тэўтонаў. Шмат сіл трэ было простаму чалавеку, каб ацалець хоць фізічна, не гаворачы ўжо пра аваладанне кніжнай навукай, да якой горача імкнуўся Лаўрын Баршчэўскі. Сталася так, што ў зямлі чэшскай дадзена было беларусіну наталіць прагу ведаў, «зрабіць тое, што пасланы чалавек на зямлі зрабіць», спазнаць той быційны сэнс, без якога сохне і нікне долу дух чалавечы. Цудоўная, неперарыўная плынь апавядання — самастойнае рэчышча са сваімі берагамі, дзе бурляць вірыстыя памкненні, горыч, слодыч, нараджэнне і смерць — праз яе, гэтую плынь, вершыцца ў творы далучэнне да вечна жывых ісцін. Расхінаюцца мройныя далягляды мінулага, мастацтва творыць цудоўныя сустрэчы, уваскрашае галасы мінулага.

Калі, дзе сустрэўся У. Арлоў з гэтым сваім героем? І з Ігнатам Грынявіцкім («Першы дзень вясны»), Міколам Гусоўскім («Час чумы»), князем Уладзімірам «Дзень, калі ўпала страла»)?

Мабыць, яшчэ да паступлення ў 1970 годзе на гістарычны факультэт БДУ адчуў юнак са старажытнага Полацка патрэбу ў дзейснай прысутнасці на свяце жыцця Францішка Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Ефрасінні Полацкай... Усіх іх, розных характарам, талентам, лёсам, але ж адзіных у самаадданай, часта ахвярнай любові да Радзімы, яе насельнікаў, роднае мовы. Любові, якая, калі ўжо была аднойчы, не мінаецца, а шукае працягу ў сэрцах наступнікаў. Невыпадкова зараз шмат гаворыцца пра тое, што як кожная чалавечая думка, так і парыванне, а тым болей учынак бясконца доўжацца ў светлай лучнасці быцця. Тым магутным жывым агні, калектыўным розуме, які ахінае нашу зямную калыску. Той «мыслячай абалонцы» планеты (ноасферы), якую адкрыў на пачатку нашага стагоддзя акадэмік У. І. Вярнадскі.

Творчая індывідуальнасць, ды і ўвогуле светаадчуванне разгортваецца з галоўнага, вызначальнага ў чалавеку, асобе. Можа стацца так, што яно, гэтае галоўнае, і не назавецца, не згусціцца, каб замацавацца на ўзроўні маўлення. Але ж неўсвядомленым нават этычным стрыжнем будзе падтрымліваць чалавека праз усё жыццё.

Наш сучаснік, герой ранняга апавядання У. Арлова «Добры дзень, мая Шыпшына!» не пагаджаецца з любай дзяўчынай у тым, што «каханне — найвышэйшае з усяго, што нараджаецца жыццём». «Не,— сказаў я.— Любоў да роднае зямлі вышэй». Вось яно, выказанае яшчэ з непасрэднасцю пачаткоўца, галоўнае.

Сваю першую кнігу, што пабачыла свет у 1986 годзе, пісьменнік, каб, мабыць, звярнуць увагу на канцэптуальную важнасць згаданага тут апавядання, назваў «Добры дзень, мая Шыпшына!». Сціплая шыпшына набыла ў творчасці нашых паэтаў і пісьменнікаў сімвалічнае значэнне вобраза Радзімы, заняла сваё месца ў сістэме духоўных каштоўнасцей беларуса. Успомнім ужо класічныя радкі У. Дубоўкі: «О, Беларусь, мая шыпшына, Зялёны ліст, чырвоны цвет!» Селянін Нявада з рамана «Пошукі будучыні» К. Чорнага разважае: «Няма мне жыцця там, дзе не расце тая шыпшына, што ў маім маленстве цешыла мне вочы». Я. Брыль у «Птушках і гнёздах», распавядаючы пра тугу па родным краі, піша: «Як куст шыпшыны, пяшчотна-ружовыя кветкі якое цвітуць пры пясчанай, журботнай дарозе, пакрытыя пылам...» Герой У. Арлова прызнаецца «шыпшына для мяне з маленства — не проста найпрыгажэйшая з кветак, але і нейкі неспасціжны, як ісціна, сімвал».

Свабодны эпісталярны жанр апавядання даў магчымасць маладому аўтару даволі нязмушана расказаць аб сустрэчы дваіх, нечаканым пазнаванні роднага, паўнаце кахання і ростані. Той ростані, якою сустрэча доўжыцца ў бясконцай удзячнасці і надзеі, а духоўны плён гэтых пачуццяў бывае шчадрэйшым за самы шчаслівы саюз дваіх.

Сустрэліся ён, беларус, улюбёны ў горад Ефрасінні і Францішка, яна, літоўка, адданая старажытнай Вільні. Прыгожыя, маладыя, ужо з прадчуваннем лёсу свайго, што з гарачага пачуцця да Айчыны вось-вось разгорнецца ў справу самога жыцця кожнага з іх. І вось Усяслаў успамінае тыя два цудоўныя, асвечаныя шчасцем тыдні, калі лагода летняй зямлі і іх сустрэча чуліся бясконцымі, вечнымі. Гэты ўспамін Усяслава — пад празрыстым крылом тугі, без якой не бывае шчасця.

Усё ж трэба адзначыць, што эмацыянальная шматпланавасць герояў не заўсёды забяспечваецца ў творы мастацкімі сродкамі. Бывае, што асноўны матыў — любоў да Радзімы — проста дэкларуецца як думка, выказванне. Урэшце гэта выдаткі формы, у якой напісана апавяданне. Абяцаючы аўтару быццам бы волю-вольную ў абмалёўцы падзей, унутраных станаў, форма ліста тым не менш патрабуе ўважлівага стаўлення да адбору матэрыялу, што даецца, зразумела, працаю, вопытам. Сведчаннем гэтаму «Кроніка Лаўрына Баршчэўскага» — апавяданне, дзе шмат разваг, думак, але ж так ладна па-мастацку арганізавана яго тканіна, што ўспрымаецца яно на адным дыханні.

Прыклад «Кронікі...» яскрава даводзіць, якую немалаважную, нярэдка нават вызначальную ролю адыгрывае ў мастацкім творы — падкрэслім, празаічным! — рытмамелодыка, як форма яго арганізацыі.

Першую кнігу пісьменніка (адрэдагаваў яе на грамадскіх пачатках Міхась Стральцоў, прадмову напісаў Яўген Лецка) склалі апавяданні, а таксама аповесць «І вярталіся мы...». Большасць твораў была ўжо знаёма чытачам па штотыднёвіку «ЛіМ», часопісе «Маладосць». Як слушна заўважыла ў сваёй рэцэнзіі Г. Пойманава («Дарогай пошуку». «Маладосць», 1986, № 12), «вобразы Рамана Галубовіча і яго сяброў («І вярталіся мы...»), Усяслава («Добры дзень, мая Шыпшына!»), Кастуся («Трое над Атлантыдай»), шэрагу герояў «Маўклівага маналогу» складаюцца ў цэласны характар, які праходзіць праз усю кнігу Арлова». Бадай кожны герой У. Арлова нясе ў сабе жыццесцвярджальнае пачуццё самага высокага накалу — любоў да Радзімы, любоў, якая шырока, дзейсна ўбірае ў сябе памяць пра мінулае, клопат пра сённяшняе і веру ў будучае роднай зямлі. Уцешна, што пры адзінстве маральных пошукаў героі У. Арлова вельмі індывідуальныя.

Трагічна недарэчна абрываецца жыццё Рамана Галубовіча. На музейным двары позна ўвечары яго забівае п'яны падлетак. Чымсьці незразумелым у сабе, Раман раздражняе Біла, Ваську-Казла і іх хаўруснікаў, гэтых у прынцыпе няшчасных, бо сляпых душою маладых людзей. Ці значыць гэта, што са смерцю Рамана зло перамагае?

Аповесць «І вярталіся мы...» пачынаецца ўрыўкамі з дзённіка Рамана Галубовіча. Адзін з іх — ключавы для разумення ўсяго твора: «Таленавіты чалавек можа не паспець зрабіць шмат, але яго жыццё ўсё адно застанецца на зямлі, як застаюцца сонечныя промні ў зернях чырвоных яблыкаў». Зернях, якія прарастаюць новымі дрэвамі і множацца на зямлі, хоць вельмі часта знаходзіцца жорсткая рука, якой яны замінаюць.

Светла-журботны вобраз Рамана Галубовіча ствараецца ў аповесці рознымі галасамі. Вочы розных людзей, быццам сістэма кантрастных люстэркаў, высвечваюць характар юнака. Ёсць адно агульнае, у чым яны — Яніна, Васіль Максімавіч, Бясперсты, гэтыя жыццёвыя антыподы — сыходзяцца ў сваім успрыманні Рамана: неабыякавасць. Так, Раман Галубовіч з тых прыкметных людзей, якіх можна любіць альбо ненавідзець, прымаць цалкам альбо гэтак жа адмаўляць. Вельмі выразна заяўлены ў ім асабовасць, маральная бескампраміснасць. Ля такіх людзей, як Раман, — прасторна аднадумцам і цесна прыстасаванцам ад жыцця.

Паказ характараў, учынкаў, падзей нясе ў сабе адначасова іх этычную ацэнку. Аднак калі ў аповесці «І вярталіся мы...» выразна пазначана мяжа паміж дабром і злом, то ў шэрагу апавяданняў першай кнігі У. Арлова чытач павінен сам расставіць этычныя акцэнты, што вынікаюць з логікі развіцця сюжэта.

Вось інжынер-забеспячэнец Лісоўскі на сваіх вішнёвых «Жыгулях» едзе ў вёску да жончыных бацькоў («Водсвет валошак»). У яго ёсць, бадай, усе падставы быць задаволеным і сабой і жыццём, гэткім наладжаным, быццам бы пэўным для яго ва ўсіх дэталях, праявах. З ахвотай падвозіць ён спадарожных і зусім натуральна трохі ганарыцца тым, што не бярэ з іх ніколі грошай. Лісоўскі любіць пагаварыць і і паслухаць, але ж малады хлопец, якога ён пасадзіў у машыну, болей адмоўчваецца, надта неахвотна адказвае на пытанні Лісоўскага. Ды вось прагаворваецца, што кінуў горны інстытут, хоць вучоба, па яго словах, давалася лёгка. Лісоўскі не вельмі верыць свайму спадарожніку і чымсьці нават унутрана раздражняецца, калі той нечакана шчыра па-юначаму прызнаецца: «Мне маляваць трэба,— ачуўшыся ад одуму, загаварыў ён.— Атрымаецца з мяне мастак ці не — не галоўнае...— Яго пальцы камячылі палатняны мяшэчак, што ляжаў на каленях.— Галоўнае, каб самім сабой застацца. Разумееце?» Ён, гэты юнак, пакуль у той пары, калі чалавек можа ўслых прамовіць самае запаветнае нават выпадковаму спадарожніку. Выбар сваёй адзінай сцяжыны зроблены, аднак духоўная самастойнасць патрабуе яшчэ гартавання абставінамі і часам. Звычайна добра ўладкаваныя ў рэчавым свеце людзі пасмейваюцца з такіх вось прызнанняў, але ж чаму Лісоўскаму, здавалася б, цалкам задаволенаму сваім жыццём, так неспакойна побач з гэтым спадарожным дзіваком? Прачнулася нешта пакутнае, просіцца вонкі. Настойліва, балюча. Сюжэтны рух забяспечваецца тут тонкім, амаль няўлоўным дотыкам да таго, што быццам бы даўно замоўкла, адгучала ў душы Лісоўскага. Замоўкла, але ж побач з гэтым юнаком, які выбраўся за сто кіламетраў, каб паблукаць толькі па родных мясцінах любімага паэта, бо хоча напісаць яго партрэт не на заказ, а так, для сябе, побач з гэтым так званым дзіваком Лісоўскага апякае ўспамін: «Чорныя, з бліскучымі вяршкамі боханы на ручніку — два вялікія і малы, падскробак... Яго маленькая школьная акварэль.

Дазвання забытае, але ж ацалелае вось у таямнічых сховах памяці, нібы ведала памяць, што надыдзе хвіліна, калі яно яшчэ прыдасца, калі без яго будзе немагчыма.

Два вялікія і малы, падскробак, маці заўсёды пякла такі для яго. І збанок з валошкамі... Ад іх на ручніку лёгкі блакітны водсвет...»

Лісоўскі высаджвае, дакладней кажучы, гоніць свайго пасажыра. Ці ўдасца яму гэтак жа лёгка выгнаць тую валошкавую мару, якой ужо здрадзіў аднойчы, якая, аднак жа, яшчэ жывая і стукаецца ў свет...

Малады пісьменнік Кастусь з апавядання «Трое над Атлантыдай» верны сваёй мары, прызванню, але ж вось і ён апынуўся у глыбокім духоўным крызісе. Каб застацца самім сабой, як юнаку з «Водсвету валошак», «ды зрабіць тое, што пасланы чалавек на зямлі зрабіць», паводле Лаўрына Баршчэўскага, Кастусь павінен верыць, што яго кнігі патрэбны людзям. А гэтая вера якраз і разбураецца людзьмі, што бачаць у літаратурнай працы адно спосаб задавальнення сваіх амбіцый і матэрыяльных патрэб. Кідае Кастуся яго Ірэна, жонка, яна хоча жыць «як усе». Кола адчужанасці замкнулася. Здаецца, што Кастусь ужо, як тое ўразіўшае яго бусляня з падрэзанымі крыламі ў заапарку, ніколі не ўзнімецца. У паўднёвым горадзе на беразе мора Кастусь не знаходзіць збавення, а толькі марнуе час, які з тупым болем вярэдзіць яго душу.

Пераадоленне героем У. Арлова летаргічнага здранцвення адбываецца быццам бы раптоўна, аднак не насуперак логіцы развіцця мастацкага характару яго героя. Адказнасць за чалавека, двух чалавек, бо смелая, шчырая, амаль падлетак, Галка, што апынулася разам з Кастусём у лодцы без вёслаў, гэтая Галка чакае сына і верыць, што выхавае яго сапраўдным чалавекам насуперак таму, што яе сын, яшчэ ненароджаны, ужо замінае родным, а яна расчаравалася ў яго бацьку — адказнасць за светлы дар жыцця праціпае наскрозь Кастуся, абуджае прагу дзеяння, уладна апелюе да самага запаветнага: «Ён зноў і зноў упарта, сцяўшы зубы, паварочваў лодку супраць ветру, туды, дзе былі агні, дзе быў бераг, дзе далёкая-далёкая ляжала яго зямля. Яна абыдзецца без яго. Але яму без яе немагчыма».

Ужо першыя празаічныя вопыты У. Арлова засведчылі, што пісьменнік часта выкарыстоўвае як успамін, так і ўнутраны маналог, пакідаючы сваіх герояў адзін на адзін з іх душой. Болей, чым ход падзей, цікавіць У. Арлова разгортванне характараў, раскрыццё ўнутранага стану чалавека. Цікавяць тыя мастацкія абсягі, той няпросты псіхалагічны матэрыял жыцця, у рэчышчы якога чакаў добры плён нашых прызнаных лірыкаў, рамантыкаў у прозе — Я. Брыля, У. Караткевіча, М. Стральцова. Пачынаўся, дарэчы, творчы шлях У. Арлова з вершаў на старонках «Мілавіцы», машынапіснага часопіса, які выдавалі студэнты гістарычнага факультэта. А не так даўно чытачы «ЛіМа» мелі магчымасць пазнаёміцца з яго вершамі ў прозе. У свеце гэтага сумоўя лірыкі з эпікай зусім невыпадковымі бачацца меладычнасць, настраёвасць апавяданняў У. Арлова.

 

## ...Вера...

Чарвячны рух чаргі —
За плоцкім і духоўным...
Крамольны знак тугі
На ўсім, як знак ахоўны.

Як доўга ён паўзе,
Чарвяк бясконцай веры...
І я стаю ў чарзе:
Няўжо зачыняць дзверы,
І той чарвяк згрызе
Апошні стос паперы
Са словамі той веры,
Якой збалелі ўсе?

## Вольная ода паэзіі

Любіце паэзію
Ціха, наўзрыд —
Мару-гарэзію,
Думкі рытм.

Душой адчуйце
Гістарычны змест
У нашых пачуццяў
Продкаў замес:
Дабра, нянавісці,
Любові, вольніцы...
З далёкай даўнасці
Пра гэта помніце!

Як помніў Сімяон Полацкі,
Бунтарны Янка Купала...
Глядзіце, каб новыя полацкі
Душу, як стэп, не стапталі!

Паэзія — гэта цяжар
Не толькі ўласнай душы.
Паэзія — лёс і дар
Распятым быць на крыжы
У бязмежным полі
Народнай долі...

У наш высакосны час
Яе паўсюль беражыце.
Хай плача ў душы у вас,
Як перапёлка ў жыце...

## Восеньскае бяссонне

Якія бясконцыя ночы!
Якія кароткія дні!
Бяссонныя цёмныя вочы
Застылі ў сваёй глыбіні.

Няшчадная цяжкая дума
Трывожыць азмрочаны час.
Галіны адвечнага дуба
Аголеным нервам крычаць.

То з'явіцца месца, то згіне...
Як хваляй, нахлыне імжой...
Пачуцці і думы благія
Навекі заснуць пад душой.

І блізкае стане далёкім,
І далеч падступіць на міг...
І вечнасці чуйныя крокі
Заціхнуць ля вокан маіх.

То голле адвечнага дуба
Вятры растрывожана гнуць...
Няшчадная цяжкая дума —
Памерці лягчэй, чым заснуць.

## Спрадвечны роздум

На сонечным пагосце —
Высокія дубы.
Сюды прыходжу ў госці
Без слёз і без жальбы.

А проста так, падумаць
Ля нейчай там пліты,
Што ляжаш тут, пад дубам,
Не сёння-заўтра ты.

Твае сапрэюць косці
І вып'юць сок дубы,
І — нехта прыйдзе ў госці
Без слёз і без жальбы...

●

Х. Л.

Такі мне выпаў лёс:
Не ўмею лгаць прыгожа,
Саромеюся слёз,
Жыву не надта гожа...

Хто ў свеце з нас прарок?
Пакуль яно ў сакрэце.
Ды свет мне не агорк
І ўсё жывое ў свеце.

Люблю набожны люд
Адвечнае Радзімы.
Бог — той, каму я люб,
І той, хто мной любімы.

А ўсё, што для душы
Спрадвеку неабходна, —
Як нова не скажы —
Заўжды неварагодна.

кое. Пра гэта ён і расказаў у сваёй аповесці, задума якой узнікла тады, калі з'явілася жаданне асэнсаваць перажытае. Не толькі для сябе, але і для іншых. Можа быць, найперш для іх: каб ведалі гісторыю без «белых плям».

**— Пачаў пісаць аповесць адразу пасля выкрыцця культу асобы Сталіна. XXII з'езд КПСС умацаваў маю веру ў тое, што стаю на правільным шляху. Скажу шчыра, лічыў сваім партыйным і грамадзянскім абавязкам сказаць людзям праўду, агаліць зло ва ўсёй яго непрыхаванасці і подласці. Паказаць катаў і іхніх ахвяр, ахвяр беззаконня і насілля. Паказаць пакуты і гібель ні ў чым не вінаватых людзей.**

**Аповесць была закончана ў 1963 годзе. Але знаёмства чытача з ёй затрымалася на цэлых дваццаць пяць гадоў. Пачаліся, як мы цяпер кажам, «застойныя гады». Усе творы, у якіх выкрывалася беззаконне ў час культу асобы Сталіна, былі схаваны ад чытача. Я таксама вымушаны быў схаваць свой рукапіс да лепшага часу. Цяпер, дарэчы, аповесць «Звон мой — праўда» рыхтуецца да выпуску асобнай кнігай у выдавецтве «Беларусь»...**

З вышыні нашай сённяшняй дасведчанасці і інфармаванасці хочацца яшчэ раз звярнуцца да апошніх старонак аповесці А. Кавалёва. Там, скажам, аўтар называе такія імёны: лейтэнант Фёдараў, старшы следчы Лебедзеў, начальнік следчай часці Соцікаў, следчы Ісаеў... Магчыма, гэтыя людзі жывуць і сёння, жывуць паважанымі «ціхімі пенсіянерамі»: разводзяць кветачкі, рыбалкай захапляюцца, паляваннем, гадуюць унукаў. Не хоча пра іх успамінаць Апанас Фёдаравіч. Але я ўсё ж спытаў у яго пра іх далейшы лёс. Спытаў таму, што ёсць і сёння тыя, што хочуць «дозавай» праўды аб мінулым, што абельваюць Сталіна і нават выступаюць у яго абарону. Апанас Фёдаравіч развёў рукамі: не, пра далейшы лёс сваіх катаў ён нічога не ведае. А сам, між тым, загаварыў пра іншае...

**— Чалавек, калі ён не адчувае за сабой ніякай віны, становіцца надзвычай моцным. Само сабой, вядома, калі ў гэтага чалавека ёсць воля, усведамленне адказнасці перад людзьмі, сябрамі, знаёмымі. Прымяненне ж фізічнага насілля даводзіць да поўнай адсутнасці памяці. Чалавек гальванізуецца страхам болю, і ў такім стане ён можа шмат нагаварыць і на сябе, і на іншых. Вось тут якраз і патрэбна сіла волі, каб не страціць розуму, праявіць мужнасць: лепш памерці, чым паклёпнічаць на сябе і на іншых. Такі, калі хочаце, загад самому сабе. Вядома, выстаялі нямногія...**

Мемуары А. Кавалёва цікавыя і тым, што яны знімаюць хрэстаматыйны глянец з тых, каго мы дагэтуль бачылі крыху ў іншым святле. Прыгадаем, напрыклад, імя Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі. Тое, што піша пра яго Апанас Фёдаравіч, не надта сугучна нашым ранейшым уяўленням пра гэтага чалавека.

**— Для таго, каб сказаць праўду і пра таго ж Панамарэнку, і пра іншых тагачасных кіраўнікоў, неабходна шмат папрацаваць з дакументамі, пакорпацца ў архівах. Гэта лепш за ўсё рабіць гісторыкам. Я ж магу гаварыць толькі тое, што тычыцца мяне асабіста, людзей, якіх ведаў я добра. Дык вось. З усёй**



Першы сакратар ЦК КПБ Ц. Я. КІСЯЛЁЎ уручае А. КАВАЛЁВУ знак «50 гадоў у КПСС». 1982 год.

**адказнасцю мушу сказаць: у маёй трагедыі ёсць віна і Панамарэнкі. З ім мы былі добра знаёмы. На XVII з'ездзе КП(б)Б (чэрвень 1938 года) разам выбіраліся ў члены ЦК. Тады ж Панамарэнка быў выбраны першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі. Жылі мы на адной дачы ў Драздах, нават абедалі за адным сталом. Ды і спрацаваліся, здавалася.**

**Тым не менш, Панамарэнка самачынна, без абмеркавання на Бюро ЦК даў згоду на мой арышт. Гэтаксама, без абмеркавання на бюро і на сходзе партарганізацыі, былі арыштаваны другі сакратар ЦК КП(б)Б А. А. Ананьеў, сакратар ЦК В. Д. Патапейка, народны камісар асветы В. І. Піваварaў і іншыя. Усіх Панамарэнка сам аддаў на расправу Цанаве, і ўсе яны, ні ў чым не вінаватыя, загінулі.**

**Мяне ж тры з паловай гады трымалі ў турме. Пасля паўторнага следства пастановай Пракуратуры СССР я быў апраўданы, але чаканай свабоды так і не ўбачыў. Яшчэ паўтара года правёў у турмах — Бутырскай, Мінскай, Полацкай, Цюменскай, Табольскай. Разлік катаў быў просты: знішчыць голадам у турмах. Яны былі недалёка ад мэты — я цяжка захварэў на туберкулёз лёгкіх.**

**Вызвалілі мяне толькі ў красавіку 1942 года — з Табольскай турмы № 5. Я шмат разоў пісаў на імя Панамарэнкі, прасіў аднавіць мяне ў партыі, але адказу так і не атрымаў. Тройчы давялося звяртацца ў парткантроль пры ЦК ВКП(б). Толькі пасля гэтага мяне выклікалі ў Маскву і аднавілі ў партыі. Панамарэнку нічога не заставалася, як разыграць ролю гэткага захавальніка справядлівасці: маўляў, увесь час думаў пра мяне, патрабаваў ад следства аб'ектыўнага стаўлення да маёй справы. Не адзін раз паўтараў: «Даравацъ сабе не магу, чаму не заняўся вашай справай!»**

**Ён мог такое гаварыць, бо тады я нічога не ведаў аб пастанове Пракуратуры СССР аб маім вызваленні яшчэ ў кастрычніку 1940 года. Панамарэнка ва ўсім імкнуўся дагаджаць Маляннкову, які добра ставіўся да яго. Наогул, падхалімаж, запабяганне перад вышэйшым начальствам і спарадзілі культ асобы. Менавіта ў гэтых умовах расквітнелі паклёп, хлусня, а пасля — і страшныя, жорсткія рэпрэсіі.**

Рэабілітаваны, адноўлены ўрэшце ў партыі і дэпутацкіх правах у 1943 годзе, А. Кавалёў доўгія гады працаваў у органах спажывецкай кааперацыі. Даўно ўжо на пенсіі, але па-ранейшаму жыве актыўным грамадскім жыццём.

**— Мяне вельмі цікавяць працэсы перабудовы. Рэгулярна чытаю газеты, стараюся быць у курсе падзей. Мая думка такая — трэба як мага хутчэй пераходзіць ад слоў да справы, бо, здаецца, мы пакуль што вельмі шмат толькі гаворым пра перабудову.**

**Люблю сустракацца з моладдзю. Гутарыў з камсамольскім актывам у ЦК ЛКСМБ, студэнтамі політэхнічнага інстытута. Мяркую сустрэцца з чытачамі маёй аповесці ў Барысаве і з навучэнсваёй радзіме.**
**цамі сярэдняй школы ў Лошніцы, на**

**Веру ў сучасную моладзь, у яе будучыню. У час такіх сустрэч зноў і зноў успамінаю сваё юнацтва. Няхай сабе было яно цяжкім, але ж — і радасным. Натхнёныя рэвалюцыяй, галодныя, але і гордыя, мы, камсамольцы дваццатых гадоў, пракладвалі першыя дарогі ў невядомае. Мы жылі вялікай верай у светлую будучыню, якой гатовы былі служыць. Цяперашнія юнакі і дзяўчаты шмат робяць, але ім часам якраз і не хапае агеньчыка, натхнення. Гэта вельмі неабходна — з вялікім натхненнем змагацца за ажыццяўленне лініі партыі на перабудову.**

На рабочым стале А. Кавалёва — новы рукапіс. «Дарогай жыцця» — так называецца яго новая аповесць, у якой таксама нічога не прыдумана. Тут ужо не толькі згадкі аб пройдзеных шляхах-дарогах, а і роздум аб дні сённяшнім, спроба зірнуць на сённяшнія з'явы і падзеі з вышыні свайго жыццёвага вопыту і адначасова кінуць позірк у дзень заўтрашні. Такія людзі, як Апанас Фёдаравіч Кавалёў, заўсёды, як бы лёс ні выпрабоўваў іх на трываласць, застаюцца аптымістамі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

### З пошты аддзела крытыкі і бібліяграфіі

# СТРАЧАНЫЯ ТАЛЕНТЫ

**Добрую справу робіць Барыс Сачанка, даследуючы гісторыю беларускай літаратуры і мастацтва.**

**Згадваюцца яго нататкі «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні», змешчаныя ў лістападаўскім нумары часопіса «Маладосць». Мы даведаліся пра шэраг мастакоў, кампазітараў, спевакоў, вучоных, што па розных прычынах апынуліся за граніцай. А што тычыцца пісьменнікаў, то некаторых з іх я ведаў па творах ці быў знаёмы асабіста.**

**Хочацца дадаць некалькі слоў да ўжо вядомага пра Алеся Салаўя (сапраўднае прозвішча Альфрэд Радзюк). Лёс гэтага таленавітага юнака склаўся вельмі трагічна. Апынуўшыся без бацькоў (іх рэпрэсіравалі ў часы сталіншчыны), ён па сутнасці быў пазбаўлены сродкаў на існаванне.**

**Пазнаёміўся я з Радзюком на курсах пісьменнікаў у 1938 годзе ў Мінску. Даведаўся, што ён, тагачасны студэнт Белпедтэхнікума, галадае і не супраць таго, каб дзе-небудзь уладкавацца на працу. Я прапанаваў яму месца ў Лагойскай райгазеце, супрацоўнікам якой быў сам да паступлення ў педінстытут імя А. М. Горкага.**

**Радзюк адразу ж прыняў маю прапанову і пяшком накіраваўся з Мінска ў Лагойск. Тут ён ахвотна быў прыняты і залічаны літработнікам у раёнку. У газеце паўней пачалі раскрывацца яго здольнасці. Выступаў з артыкуламі, замалёўкамі, сатырычнымі вершамі, падпісваўся пад рознымі псеўданімамі: Рыгор Тойсамы, Банадысць Свой. Дарэчы, апошні з іх быў агульным для ўсіх, хто выступаў у раённай газеце з сатырай.**

**Такой знаходцы, як Радзюк, у рэдакцыі райгазеты радаваліся. Прыязджаючы на канікулы дадому, я таксама заставаўся працаваць тут. Разам ездзілі на раён, рыхтавалі матэрыялы.**

**І вось пачалася вайна, раён акупіравалі немцы. Перад іх прыходам Радзюк напісаў верш пра бандыцкі напад на нашу краіну гітлераўскіх захопнікаў. Верш не справіліся надрукаваць, і ён застаўся ляжаць у рукапісе на наборнай касе. Яго разам з іншымі матэрыяламі і падабралі фашысты.**

**Радзюк гэтым часам апынуўся ў лесе. Тут ён сустрэўся з пасланцом партыі, накіраваным у тыл ворага для арганізацыі партызанскай барацьбы Іванам Мацвеевічам Цімчуком і далучыўся да яго групы.**

**Безумоўна, нялёгка прыходзілася першым партызанам: цярпелі ад холаду і голаду. Радзюк не вытрымаў і вярнуўся ў Лагойск. Фашысты пасадзілі яго ў турму, але потым выпусцілі. Неўзабаве падабраў яго малады паэт Уладзімір Дудзіцкі (Хацько), які быў знаёмы з ім да вайны. Прывёзшы ў Мінск, уладкаваў на работу ў рэдакцыю «Беларускай газеты».**

**Я не ведаю выпадку, каб Радзюк падтрымліваў немцаў. Але ў яго была крыўда на Савецкую ўладу за незаконны арышт бацькоў.**

**Нечакана для мяне, калі я ўжо быў у партызанах, Радзюк апынуўся ў Рызе і там стаў супрацоўнічаць у часопісе «Новы шлях». Некаторыя нумары яго траплялі да нас у лес праз сувязных, і мы мелі магчымасць знаёміцца з імі. У адным з нумароў я наткнуўся на паэму Альфрэда «На хуткіх крылах вольнага Пегаса». Прачытаў — і сэрца зашчымела. Паэма была прасякнута смуткам па роднай старонцы, здавалася, аўтар на крылах гатоў прыляцець сюды.**

**Далейшы лёс Радзюка быў мне невядомы. Гаварылі, што пасля выгнання немцаў з тэрыторыі нашай краіны ён апынуўся за рубяжом, спачатку ў Германіі, а потым кудысьці пераехаў. Пазней ад былога сябра па студэнцкай парце М. Ермаловіча даведаўся, што Радзюк трапіў у Аўстралію, там і памёр.**

**І вось у часопісе «Маладосць» я ўбачыў магілу колішняга свайго знаёмага і ўстаноўлены на ёй помнік. Доўга ўзіраўся ў яго і ніяк не мог прымірыцца з тым, што Радзюк памёр на чужыне, пакінуўшы там сыноў і ўнукаў.**

**Барыс Сачанка піша: Альфрэд Радзюк і на далёкай чужыне застаўся верным сваёй мілай старонцы Беларусі. Пра гэта сведчыць і надпіс, зроблены на помніку: «Мне сняцца сны аб Беларусі».**

**Дзякуй Б. Сачанку за яго адкрыцці. Як многа мы ў гады нягод і завірух страцілі таленавітых землякоў, якія маглі б стаць нашай нацыянальнай гордасцю!**

**Б. САСНОЎСКІ.**

г. Лагойск.



 

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**Грамадзянін Лукашук! Прачыталі ваш артыкул у газеце «ЛіМ» за 9.XII.88 г., дзе вы разважаеце пра судовае разбірацельства, што адбылося ў Маскве. Не ведаем, хто вы — журналіст або літаратар, у нас у Саюзе іх стала вельмі многа, што ж, рабочы клас вялікі — пракорміць.**

**І цяпер і раней людзі жылі і верылі таму, што ім падносілі газеты, кіно, тэатры, радыё, пісьменнікі. Шмат іх было тады і больш стала цяпер. Дык вось, калі чытаеш артыкулы такіх, як Адамовіч, Быкаў, і многіх іншых, дык атрымоўваецца, што раней усе былі дурныя, непісьменныя, усе хлусілі, дурылі наш народ, а сумленныя паехалі на Калыму. А вось цяпер усе сталі сумленныя і пішуць толькі праўду. Хіба праўду напісаў Адамовіч пра мінчан? А хіба праўду напісаў Быкаў у «Огоньке»? І ў вашым артыкуле «Не бойся» сёе-тое не вельмі праўдзіва напісана.**

**Па-першае, па тэлебачанні быў паказаны не суд, а фарс. Вы ж бачылі, што суддзя затыкала рот аднаму толькі Шахаўцову, у зале публіка сабралася такая, што падтрымлівала толькі адзін бок, дакументаў, на якія спасылаліся сведкі, ніхто не бачыў. У гэтай сітуацыі Шахаўцоў трымаўся малайцом, і хоць мы не абараняем рэпрэсіі пры кульце Сталіна, але думаем, што калі Шахаўцоў абараняў Сталіна, дык гэта яго справа, ён юрыст, яму відней. А вы яго папракаеце, што ён сумленна працаваў у свой час, ваяваў, а не здаўся ў палон, паступіў у Камуністычную партыю і, як мы ўпэўнены, не ўступіў бы ў таварыства «Мартыралог». Вось і вы, калі працуеце сумленна, дык і пішыце аб'ектыўна і сумленна. Што Шахаўцоў супраць Адамовіча, дык мы за яго — за Шахаўцова.**

**Паверце, калі б было жаданне, мы б сабралі шмат подпісаў пад нашым лістом. Праз 35 гадоў пасля смерці Сталіна ў магазінах няма цукру без талонаў, чарга за танным адэкалонам і г. д. На вуліцу выходзяць студэнты, якія жывуць за кошт бацькоў і дзяржавы, ды яшчэ гарланяць, за што сапраўды трэба паслаць у калгас папрацаваць.**

**Як раней усе поспехі прыпісвалі Сталіну, дык цяпер яго вінавацяць ва ўсіх грахах. Што гэта? Гэта проста дэмагогія. Згодны?**

**Усе ведаюць, што ў даваенныя гады шмат загінула народу. А вось галоўны «Мартыралог Беларусі падлічыў, што без суда і следства ў Курапатах пад Мінскам расстраляна 300 тысяч чалавек. Як і дзе браў З. Пазняк свае разлікі, як ён лічыў, хай адкажа людзям. Гэта ж паўтарае Адамовіч.**

**Мы жылі да вайны ў Мінску, у нашым класе ў дзяцей ніхто з бацькоў не быў рэпрэсіраваны, на нашай вуліцы — таксама не чуваць было. Але размовы і чуткі, што начальства, як ворагаў народа, арыштоўваюць, — былі, але Мінск жыў вясёлым, цудоўным даваенным жыццём.**

**А ў горадзе было ж усяго 250 тысяч насельніцтва, дык як жа лічыў Пазняк? Да таго ж, у «Неделе» № 47 таксама не даецца дакладнага адказу, а ў Мартыралога ўсё ў ажуры — 300 тысяч расстраляных. Нам здаецца, што калі расстраляна нават 3000 невінаватых, дык гэта таксама вельмі страшна. Дык, каб не баламуціць людзей, трэба пісаць праўду.**

**А. ВЕРАМЧУК, В. ЛАБАДА,**
**ветэраны працы.**

г. Мінск.

# ТУГА ПА МІНУЛЫМ?

**Адказ аўтарам ліста А. ВЕРАМЧУКУ і В. ЛАБАДЗЕ**

У ВЯЛІКАЙ рэдакцыйнай пошце ваш ліст, Альберт Мікалаевіч і Васіль Дзмітрыевіч, звярнуў на сябе ўвагу сваім сярдзітым, непачцівым тонам. Гэты тон адчуваецца і ў халодна-афіцыйным звароце: «Грамадзянін Лукашук», і ў фразе: «Не ведаем, хто вы—журналіст ці літаратар, у нас у Саюзе іх стала вельмі многа, што ж, рабочы клас вялікі—пракорміць». Ну, навошта вы так? І адкуль вы ўзялі, што журналісты і літаратары маюць патрэбу ў тым, каб іх «кармілі»? Яны самі зарабляюць сабе на хлеб, больш таго, газет і кніг прыносяць краіне мільённыя прыбыткі. І потым, што гэта за сверб такі апошнім часам у многіх—ледзь што, гаварыць ад імя народа, рабочага класа? Вось і вы—таксама, хоць, наколькі я ведаю, да рабочага класа не належалі: адзін з вас да пенсіі працаваў мастаком-афарміцелем, другі—эканамістам.

Прызнаюся шчыра, калі я прачытаў ваш ліст, мне захацелася пазнаёміцца з вамі. Як бы там ні было, а ніякі ліст не заменіць асабістага кантакту. Таму я і прыйшоў да вас.

Мой візіт да вас, Альберт Мікалаевіч і Васіль Дзмітрыевіч, вы ўспрынялі, мне падалося, са змешаным пачуццём трывогі і цікаўнасці: чаго гэта раптам завітаў карэспандэнт? Але тут жа і супакоіліся, калі я нагадаў пра ваш ліст у «ЛіМ».

— Пісалі, пісалі, — сказалі вы, Альберт Мікалаевіч.—І не толькі вам. Мы ў многія газеты пішам...

— Пра тое, што і нам?—пацікавіўся я.

— Чаму ж пра тое,—пакрыўдзіліся вы. — Пра рознае пішам. Але толькі з пазіцый праўды.

Мы ўтрох доўга гутарылі. Я даведаўся, што жывяце вы ў адным пад'ездзе, сябруеце, хоць, як прызнаўся Васіль Дзмітрыевіч, часта паміж сабой спрачаецеся. Не ўнікаў у вашы спрэчкі, але зразумеў з далейшай гаворкі, што свой ліст у нашу газету вы пісалі ў поўнай згодзе.

Вам абодвум многае не падабаецца ў сённяшнім жыцці. Не падабаецца, напрыклад, што ў прэсе друкуюцца матэрыялы аб злачынствах Сталіна. Менавіта таму вас так раззлаваў змешчаны ў «ЛіМе» артыкул А. Лукашука «Не бойся», дзе даследавалася палітычная і чалавечая сутнасць былога пракурора, абаронцы Сталіна І. Шахаўцова. Вы цалкам на яго баку. Маючы на ўвазе паказаны па Цэнтральным тэлебачанні фільм «Ачышчэнне», у якім расказвалася пра судовы працэс, прысвечаны разбору іску І. Шахаўцова да пісьменніка А. Адамовіча і рэдакцыі «Советской культуры» за «знявагу» апошнімі «гонару і годнасці Сталіна», вы пішаце: «...Шахаўцоў трымаўся малайцом, і, думаем, калі ён абараняе Сталіна, гэта яго справа, ён юрыст, яму відней... Ён сумленна працаваў у свой час... паступіў у Камуністычную партыю і, як мы ўпэўнены, не ўступіў бы ў таварыства «Мартыралог»...

Я таксама ў гэтым упэўнены. У таварыстве, мэта якога—ушанаванне памяці ахвяр сталінскага тэрору, Шахаўцову няма чаго рабіць, ён гэты тэрор, фактычна, апраўдвае.

Аддаючы даніну часу, вы ў сваім лісце асуджаеце рэпрэсіі ў часы культу Сталіна, але ў той жа час лічыце, што маштабы іх зараз перабольшваюцца. «Да вайны ў Мінску, у нашым класе ў дзяцей ніхто з бацькоў не быў рэпрэсіраваны, на нашай вуліцы—таксама не чуваць было,—пішаце вы.—Мінск жыў вясёлым, цудоўным даваенным жыццём».

Я маладзейшы за вас, у 1937 годзе мне было толькі восем, але я дагэтуль помню дзень, калі па нашым двары разнеслася чутка, што мінулай ноччу арыштавалі бацькоў трох маіх аднагодкаў. Помню, як яны выйшлі на вуліцу—бледныя, заплаканыя, палахліва пазіраючы на дарослых, што з каменнымі тварамі праходзілі міма. З сорамам успамінаю, як нехта з нас, з уласцівай дзецям жорсткасцю, крыкнуў: «Эй вы, трацкісты, каб вашай нагі тут больш не было!» Так. мы, дзеці той пары, адчувалі патаемны страшны сэнс слоў «трацкіст», «вораг народа».

У гэты час і ў нашай сям'і, помню, было вельмі трывожна. Са скупых слоў, якімі абменьваліся бацькі, я ведаў, што нядаўна быў арыштаваны і адразу расстраляны бацькаў брат, які жыў у Ленінградзе, а сям'я яго — жонка і дачка — некуды выслана. Самога бацьку і яшчэ аднаго яго брата, у якога, дарэчы, быў дарэвалюцыйны партыйны стаж, выключылі з партыі, знялі з работы, і яны з дня на дзень чакалі арышту. На ўсё жыццё запомніў я такую карціну: вечар, ля сцяны, на пастаўленых у рад крэслах, не распранаючыся спіць бацька. Такое тады можна было наглядаць у многіх дамах: выпрацоўваўся своеасаблівы рытуал чакання арышту...

Так што не такім ужо «вясёлым і цудоўным жыццём» жыў даваенны Мінск. Менавіта ў тыя гады адбываліся масавыя расстрэлы людзей ва ўрочышчы Курапаты, а гэта ж усяго за некалькі кіламетраў ад горада.

У час нашай сустрэчы вы сказалі, што знаёмы з лімаўскім артыкулам «Курапаты—дарога смерці», але многае ў ім вам здаецца бяздоказным. Маўляў, не магло тут быць расстраляна, як сцвярджаюць аўтары, 300 тысяч чалавек, калі ў Мінску тады было ўсяго 250 тысяч жыхароў. «Нам здаецца, што калі расстраляна нават 3000 невінаватых, дык гэта таксама вельмі страшна», — пішаце вы ў лісце. Страшна, Альберт Мікалаевіч і Васіль Дзмітрыевіч, калі расстраляюць нават аднаго невінаватага чалавека. Але справа тут вось у чым. У вашых спробах зменшыць маштабы трагедыі ў Курапатах бачыцца мне спроба наогул зменшыць маштабы сталінскіх рэпрэсій. І вы не адны ў такіх сваіх «парываннях»... Ёсць, ёсць людзі, якім не дакажаш, што мільёны сталінскіх вязняў былі фізічна знішчаны ў турмах, месцах зняволення ГУЛАГа, які раскінуў сваё павуцінне па ўсёй краіне, памерлі ад голаду і катаржнай працы на этапах, у ссылках за Палярным кругам, у сібірскай тайзе. Вядомы савецкі гісторык Рой Мядзведзеў, які шмат гадоў займаецца вывучэннем механізма сталінскіх рэпрэсій, лічыць, што калі за пункт адліку браць пару прымусовай калектывізацыі, дык колькасць ахвяр рэжыму наблізіцца да 40 мільёнаў чалавек.

Што тычыцца колькасці расстраляных ва ўрочышчы Курапаты, дык урадавая камісія, якая расследуе факты масавых расстрэлаў менавіта ў гэтым месцы, прыйшла да высновы, што тут было забіта не менш як 30 тысяч чалавек. Але ж не менш—гэта не значыць, што не больш. Згодна з дакументамі камісіі, сюды звозілі людзей для знішчэння з розных месц рэспублікі, нават з-за яе межаў.

«Праз 35 гадоў пасля смерці Сталіна ў магазінах няма цукру без талонаў, чарга за танным адэкалонам і г. д.»,—пішаце вы ў сваім лісце. Не буду ўдавацца ў аналіз сённяшніх цяжкасцей у эканоміцы—вы ведаеце, якая спадчына засталася ад застойных часоў. Але вы намякаеце, што калі і жылося добра, дык пры Сталіне. Так, сталіністы настойваюць на тым, што пад кіраўніцтвам вялікага правадыра наша краіна дасягнула грандыёзных поспехаў, што Сталін за небывала кароткі тэрмін ператварыў Расію сялянскую ў Расію індустрыяльную. Але хочацца спытаць, якой цаной? Хіба не цаной нябачаных у свеце маштабаў выкарыстання прымусовай працы? Ніхто не падлічыў, на касцях колькіх людзей стаяць Магнітка і Днепрагэс, Беламорска-Балтыйскі канал і Камсамольск-на-Амуры, сотні іншых сталінскіх будоўляў.

«Як раней усе поспехі прыпісвалі Сталіну, дык цяпер яго вінавацяць ва ўсіх грахах. Што гэта? Гэта проста дэмагогія. Згодны?»— пытаецеся вы ў сваім лісце.

Не, не згодны. Хоць, вядома, вы маеце рацыю, калі гаворыце, што пры жыцці Сталіна яго на кожным кроку ўслаўлялі як генія ўсіх часоў і народаў. Але ж і гэта ўслаўленне таксама сведчыць аб трагедыі народа, пастаўленага тым жа Сталіным і яго клікай ва ўмовы татальнага знішчэння ўсякага іншадумства. Што і казаць, у тысячах і тысячах падданых Сталіну з дапамогай выпеставанага ім адміністрацыйнага апарату ўдалося выхаваць веру ў яго, Сталіна, непагрэшнасць, выхаваць псіхалогію рабоў, сфарміраваць грамадства, якое павінна было жыць толькі па ўказанні правадыра.

Было, жыло... Усё, здавалася б, засталося ў мінулым. Адкуль жа тады з'яўляюцца Шахаўцовы, якія і сёння дэкляруюць такую адданасць Сталіну? Што гэта—поза, фанатызм, спосаб процістаяць няўмольнаму часу, які адвёў месца сталінізму на смятніку гісторыі?

Вы, мабыць, чулі, што многія рускія сяляне бунтавалі ў свой час супраць адмены прыгоннага права. Чаму? Па іх думцы, без гаспадара-памешчыка жыць будзе невыносна, маўляў, «народу патрэбны бізун».

Гістарычныя паралелі — рэч рызыкоўная, але ж і сёння можна пачуць, што пры Сталіне народ «не баловался», што ўсюды быў жалезны парадак і да т. п. Што, скажыце, разумеецца пад такім парадкам? Тое, што перад вайной за спазненне на працу на пяць хвілін давалі некалькі гадоў турмы? Што сяляне фактычна былі замацаваны за калгасамі і не мелі права пакінуць месца жыхарства? Што... Такіх прыкладаў набярэцца многа.

Я не зразумеў, у якую сувязь з крытыкай Сталіна вы ставіце ў сваім лісце той факт, што «на вуліцу выходзяць студэнты, якія жывуць за кошт бацькоў і дзяржавы, ды яшчэ гарланяць, за што сапраўды трэба паслаць у калгас папрацаваць». Зразумеў толькі, што вам не падабаецца сённяшняя моладзь за яе раскаванасць, смеласць думак, самастойнасць, імкненне дайсці да ўсяго сваім розумам, прагу дэмакратыі. Каб была ваша воля, вы б яе ў кутузку... Як і ўсіх, хто змагаецца за тое, каб ва ўсіх сферах жыцця нашага грамадства не на словах, а на справе сцвердзіліся высокія маральныя ідэалы.

Пры нашай сустрэчы вы расказалі, што вам вельмі не спадабаўся артыкул Васіля Быкава, змешчаны ў адным з нумароў «Огонька».

— На Быкава мы за той артыкул збіраліся падаць у суд, — паведамілі вы.

— За што?—пацікавіўся я.

— За тое, што ўзяў пад абарону дэманстрантаў, што паклёпнічаў на міліцыю.

Вы мне расказалі, што тады, 30 кастрычніка мінулага года, з-за цікаўнасці таксама прыйшлі да Маскоўскіх могілак (ад вашага дома блізка), бачылі там натоўп, ззаду якога пастаялі колькі хвілін. Міліцыя, па вашых словах, паводзіла сябе вельмі культурна. «Як жа Быкаў можа сцвярджаць, што яна карысталася дубінкамі і балончыкамі з газам, што арыштоўвала людзей?»,—абураліся вы.

Не толькі народны пісьменнік Беларусі Васіль Уладзіміравіч Быкаў (дарэчы, вы прызналіся, што кніг яго не чыталі) узняў свой голас пратэсту супраць несправакаваных дзеянняў міліцыі ў той дзень каля Маскоўскіх могілак, у «ЛіМ» напісалі пра гэта многія непасрэдныя ўдзельнікі мітынгу-рэквіема, якія зведалі на сабе і ўдары дубінак, і дзеянне газавых балончыкаў.

У рэшце рэшт і «Литературная газета», якая правяла спецыяльнае юрыдычнае даследаванне падзей, што адбыліся 30 кастрычніка ў Мінску, прыйшла да высновы, што мінскія ўлады, органы ўнутраных спраў парушылі закон.

Многія сённяшнія з'явы жыцця, звязаныя з перабудовай, з новым палітычным мысленнем, стварэннем прававой дзяржавы, вы мераеце старымі меркамі.

— Да чаго дажыліся—Сахарава друкуюць!—абураліся вы ў час нашай гаворкі.—Дысідэнта!

— А што такое, па-вашаму, дысідэнт?—запытаўся я.

— Як што—вораг Савецкай улады!—растлумачылі вы.

Такое ўжо здаралася. Генатып сталінізму вельмі жывучы. Недзе я вычытаў разумную, на мой погляд, думку: «Зло не толькі нараджае зло, яно сябе завяшчае».

Задумайцеся над гэтымі словамі.

**М. ЗАМСКІ,**
**загадчык аддзела публіцыстыкі і нарыса «Літаратуры і мастацтва».**

## *Пераклады*

# АДЗІН ВЕРШ

Розныя вершы, розныя паэты, розныя стылі, розныя краіны, розныя эпохі... Чым яны прыцягнулі ўвагу? Высокай філасофіяй і чыстым ладам, як заўсёды і прысна, уразіў Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. Апошнім сваім вершам, які цяпер у дзень смерці паэта спявае ўся Індыя, усхваляваў Рабіндранат Тагор. Вялікай прастатою захапіў Ду Фу. Гістарызмам і тэмпераментам прывабіў грузін Давід Гачэчыладзе, вобразнасцю — серб Мілан Дзедзінац, раскаванасцю — італьянец Сальваторэ Квазімода, рамантычнасцю — украінец Раман Лубкіўскі.

Творы гэтыя далі магчымасць зразумець, што і адзін верш — гэта ўжо нямала, што і адным вершам можна сказаць вельмі многа.

Прапаную чытачам па аднаму вершу гэтых паэтаў у сваім перакладзе.

Янка СІПАКОЎ.

**А. С. ПУШКІН**

### *Дэман*

Калі усё было мне новым,
Калі ўсім захапляўся я —
Дзяўчат пагляды, шум дубровы
І ўночы спевы салаўя,—
Калі пачуцці волі, брацтва,
Каханне, слава, гурт сяброў
І ўсе натхнёныя мастацтвы
Так моцна хвалявалі кроў,—
Тады надзей і ўцех імгненні
Раптоўна засцячы журбой,
Якійсьці дужа злосны геній
Хадзіць таемна ў дом стаў мой.
Былі журботныя сустрэчы:
Яго усмешка і пагляд,
Зласлівасць слоў яго штовечар
Лілі ў душу халодны яд.
Паклёпам, быццам бы ахвяру,
Ён лёс нястомна спакушаў,
Цудоўнае лічыў ён марай,
Натхненнем горда пагарджаў.
Не верыў ён каханню, волі,
З насмешкай на жыццё глядзеў —
Ва ўсёй прыродзе сам ніколі
Нічога славіць не хацеў.

**Давід ГАЧЭЧЫЛАДЗЕ**

### *Калі слухаю старую песню*

Як пачую нашу песню,
Нашу песню,
Затрымчу ад хвалявання, нібы ў сне...
Вецер даўні, нібы прывід, уваскрэсне
І, здаецца, верне ў даўняе мяне.

Промень колішні мінулае пакажа,
Як калісьці, загучаць чангуры зноў.
За смугою часу продкаў я заўважу,
Іх убачу праз гады,
Як праз акно.

— Хто вы там? —
На нас глядзяць яны балесна,
Славяць край свой, што радней за ўсе краі...
Нашу песню калі чую,
Нашу песню,—
Бачу крэпасць над цяснінаю стаіць.

Рэчка шабляю зламанай халадзее,
І жанчына
Аглядае з вежы даль,
Праз якія глядзіць, стамлёная, з надзеяй,—
Я малітву яе чую ў шуме хваль.

Нашы коннікі —
Зірні на іх, запомні —
Напярэймы, бачыш, ворагу імчаць.
Коп'і вострыя, калючыя, як промні,
Ярка ў хмарах перадымленых
Блішчаць.

Лёс цяжкі наш,
Нашы мары, просім, здзейсні!
Наша будучыня,
Долю перайнач!
Песня даўніх нашых бедаў,
Наша песня,
Як мне вынесці твой смутак
і твой плач?

Голас плача,
Голас воінаў хавае...
Што зрабіў табе, татарын, той хлапчук?!
Там з-за песні чалавека забіваюць —
Ні надзеі.
Ні заступніка ад мук.

Дзе ахвяру пахавалі, далакопы?
На траву мы ногі ставім ці на твар?
І ўздыхае Мтквары сумная
Глыбока,
І крывава поўня сочыцца з-за хмар.

Ціха.
Скончылася песня.
Плачуць вочы.
Чым, скажыце, боль мінулага лячыць?
Мне здаецца, вочы продка
за мной сочаць,
І напеў стары усё яшчэ гучыць.

Гасне дзень
І ўжо сутонее нанова.
Сярод свечак Гарэджы і я стаю...
Раскрываюць вусны мёртвыя галовы —
Нашу песню,
Нашу даўнюю пяюць.

**Ду ФУ**

### *Напісана ў джонцы, калі прыляцелі ластаўкі*

Вясною зноў
Гляджу я на раўніну,
Журботны госць
У горасным краю,

І ластавак,
Што ў дзюбах носяць гліну,

У працы,
Як заўсёды, пазнаю.

Калісьці вы ў садок мой
Прыляталі

І бачылі
Шматок зямлі мае,

А зараз вы, крылатыя,
Спаткалі,

Мяне далёка
Стрэлі ад яе.

Вы, ластаўкі,
На поўначы і поўдні

У змаганні,
Куды б клопат не занёс,

Як вы, сяброўкі мілыя,
Падобны

На гнанца,
За якім палюе лёс.

Вось вы шчабечаце
На мачце ў джонцы,

І хутка ўсе
Паляціце дамоў.

А мне, бадзягу,
На чужой старонцы

У суме слёзы
Выціраць наноў.

**Рабіндранат ТАГОР**

●

Акіян спакою вялікага наперадзе
ў мяне,
У шлях далёкі вядзі мяне,
мой стырнавы на чаўне.
Вечным маім спадарожнікам стань,
о руляры ты мой,
Дай мне руку і ў нязнанае
мы паплывём з табой.
Зрабі, каб вечна зоркі Дхрувы святло
На бясконцым шляху нашым
з намі было.

Даруючы волю, ты ў падарожжы
апошнім хоць
Абарані ад зла, прабачэннем
і міласэрнасцю мяне ўзнагародзь.

Як ірвецца сувязь з жыццём
дай адчуць —
Я ў абдымкі Сусвету ўпасці хачу,
Я хачу, каб душа не баялася, не
Уваходзіць ў Невядомае,
што наперадзе чакае мяне.

**Сальваторэ КВАЗІМОДА**

### *Мілан, жнівень 1943*

Дарэмна, бледная рука, у пыле
шукаеш нешта. Горад твой памёр.
Памёр.
Апошні гром прагрукатаў над сэрцам
Навільё, і забіты салавей
упаў з антэны над манастырам,
дзе пеў яшчэ перад заходам сонца.
Не трэба ў глыбіні двароў капаць
калодзежы —
тым, хто жывы застаўся, не да смагі.
Не датыкайцеся да трупаў, хай яны
ляжаць на той зямлі, дзе котлішчы
былі іх.
А горад? Ён памёр. Памёр.

**Мілан ДЗЕДЗІНАЦ**

### *Трава ў сне і наяве*

Тры начы, тры дні травою быў я
ўвесь зачараваны,
замест Месяца і Сонца ў іншым
бачыў спаталенне,
зразумеў, што недарэчы ад травы
быў адарваны,
бо любіў дасюль чароўнасць
толькі неба і камення.

А травы зусім не ведаў.
І тры дні, цяжкія ночы
праз мой сон яна буяла,
праз мяне расла міжволі.
Я пачаў ужо баяцца,
што ўтравелы твар і вочы
Сонца промнямі сваімі не пагладзіць
мне ніколі.

Тры начы, тры дні мінула —
прамаўчаў іх без святла я,
я чакаў яго дарэмна —
не ўзыходзіла свяціла.
Нада мной жаўцела толькі яго копія
малая —
то сланечнік замест Сонца
неба на сябе каціла.

Тры начы, тры дні даўгія,
калі промняў было мала,
бралі і звяроў і дрэвы,
і мяне самога жуды.
І з-пад той вялізнай кветкі,
што са змроку вырастала,
бачыў я: трава Сусветам валадарыць
смела ўсюды.

Да паўдня штодня з вялізнай,
нібы кратэр, кветкі гэтай
струмянямі травы білі з гулам
гейзераў спрадвечных,
а з паўдня ў змрок таго жэрла
ўсе травы ўсяго свету
зноў вярталіся, як промні Сонца,
стомлена надвечар.

Аж да поўначы выполваў
я з зямлі рупліва травы
І не ведаў, што з нябёсаў
вырываю дождж штосілы.
А калі ступіў на ганак,
каб развеяць сон і яву,—
ноч мяне неспадзявана
дажджавым крылом накрыла.

Страсна вырвацца жадаў я
ад травы і яе чараў,
ды дарэмна — аж да ранку
гэтым дзівам жыў адзіным.
І ад сноў мне і ад явы след астаўся,
нібы мара —
у руцэ сціскаў травінку з кропляй
чыстаю расіны.

**Раман ЛУБКІЎСКІ**

### *Дунайская балада*

То сон быў? Казка? Мроіва? Не знаю
Уявы я, калі гэта было...
Але было: плынь спеўнага Дунаю
І птушкі вечаровае крыло...

Яшчэ было: як прывід, поплаў сонны,
Раптоўны дождж, блакіт — на ўсю жаду
Там, дзе ў Дунаі па калена коні
Ружовыя, як цені, п'юць ваду.

Было яшчэ: пад лёгкімі мастамі
Плыў белы катэр — казачны, лічы...
Было і тое, пра што марым самі,
І тое, чаго ў сэрцы не змагчы.

Яшчэ быў жэст —
банальная прыкмета! —
Наіўна-смешны аж да пекнаты:
З рукі дзівакаватага паэта
Браць не схацела белай кветкі ты.

Як гэта добра, што не захацела!
Як гэта добра — кветка паплыла!
Як гэта добра — хваля налясцела
З сабою тую кветку узяла.

Яе павольна баржа абмінае,
Адкідваюць маторкі за край-свет.
Жыццё такое. Неўпрыкмет знікаюць
Рамэа падкія і менее Джульет.

Я згодзен. Так, усё — мана манoccupy.

Я згодзен. Так, усё — мана маною,
Як выпадковасць і сустрэч-разлук.
Я згодзен. Хай застанецца са мною
Хоць музыка тваіх цнатлівых рук.

Калі не ўся, то хоць бы колькі тонаў,
Хоць бы адзін прысумлены напеў.
І ўсмешка беззаганнае мадонны,
Якую я — нашто? — сасніў ці стрэў.

І джалам залатым — кінжал нібыта —
Яна у сэрца ўдарыла маё...
Павеяла забытаю ракітай,
Блакітным чадам ранішніх гаёў.

Так было трэба. Сталася. Збылося.
Як варажбою звонкай наплыло.
І сном, што сніцца раз на год, здалося
Нахлынула, заззяла, зацвіло.

Забудзецца, развеецца. Адхлыне.
Зацягнецца дунайскаю вадой
Да кроплі, да пялёстка, да іскрыны
Той д'ябальскай відзежы залатой.

Што ж то было? Містэрыя Дунаю,
Ці магія вякоў, што адышлі?
Я адчуваю, разумею, знаю,
Што маё сэрца ўсё яшчэ баліць.

Ад прыгажосці, што не мае жалю,—
Не знаю іншай і не прызнаю!
Фантастыка? Уяўнасць? Надрэальнасць?
Прымаю ўсё, што будзіць крою маю

Хоць на хвіліну...
Шчыра заклінаю:
Хвіліна хай мяне перажывае!
Якім стагоддзем то было — не знаю,
А кветка белая ўсё па вадзе плыве...

і Германіі. Дзе гарантыі, што гэта не паўторыцца? Значыць, нельга дапускаць двайной незадаволенасці, самому пачынаць не варта, хай пачне «маньяк». Тады таварыш Сталін узначаліць «абарону народа ад варожага нападу» («Кароткі курс») і будзе апраўданы ў любой жорсткасці, якую дапусціць пры гэтым. На такую думку наводзяць словы, якія Сталін сказаў 3 ліпеня: «Вось чаму ўся наша доблесная Чырвоная Армія, увесь наш доблесны Ваенна-Марскі Флот, усе нашы лётчыкі-сокалы, усе народы нашай краіны, усе лепшыя людзі Еўропы, Амерыкі і Азіі, нарэшце, усе лепшыя людзі Германіі — кляймуюць вераломныя дзеянні германскіх фашыстаў і **спачувальна адносяцца да Савецкага ўрада, ухваляюць паводзіны Савецкага ўрада»** (падкрэслена мною. — **І. Л.**).

Ці не праўда, якая дзіўная логіка і сувязь? Гітлер напаў на СССР нечакана і подла. Напаў на краіну, на народ. А гэты народ, з першых хвілін зведваючы цяжкія ахвяры, чамусьці павінен **спачувальна** адносіцца да свайго ўрада, як быццам гэты ўрад у першую чаргу пацярпеў. І ўвесь свет спачувальна адносіцца не да савецкага народа, які пралівае кроў, а да Савецкага ўрада, г. зн. да Сталіна. І ўся краіна і ўвесь свет **ухваляюць** паводзіны Сталіна. Якія паводзіны? Відаць, тыя, якія папярэднічалі вайне. Але ж гэтыя «паводзіны» не прадухілілі вайну! Тут яму сказаць бы: «не вінавацяць», а ён — «ухваляюць».

Ён, вядома, у гэты момант ніякай віны за сабой не адчуваў. І што падумае, што скажа пра яго народ, рашаў за народ ён сам. І ў канцы прамовы звычна заклікаў народ з'яднацца вакол сябе: «Дзяржаўны Камітэт Абароны... заклікае ўвесь народ з'яднацца вакол партыі Леніна-Сталіна, вакол Савецкага ўрада».

Па паасобных успамінах, Сталін у першыя дні вайны выглядаў разгубленым. Думаецца, што гэта была гульня, якая адпавядала «знянацкаму» нападу. Ніякай разгубленасці не адчувалася па тымчасовых газетах. Нумары з паведамленнямі аб пачатку вайны выйшлі з вялізнымі партрэтамі Сталіна, быццам ён перамог ужо. Ва ўсялякім разе, думаў ён, маральная перамога ўжо атрымана, Гітлера ўдалося перахітрыць, ён пачаў першым, а гэта — зарука і ваеннай перамогі.

**Але неўзабаве настрой Сталіна пачаў мяняцца. Войскі зведвалі незапланаваныя паражэнні, вораг ірваўся да Масквы. Узнікла пачуццё віны за пралік. З газет паступова сталі знікаць загалоўкі з імем Сталіна, паменела згадак пра Сталіна ў перадавіцах і іншых тэкстах. У нумары «Праўды» за 16 кастрычніка 1941 года — не паверыў сваім вачам! — я не знайшоў НІВОДНАГА УПАМІНАННЯ пра Сталіна. К гэтаму часу адносіцца шматзначны эпізод, зафіксаваны ва ўспамінах маршала Конева («Знамя», 1988, № 1, стар. 100). Маршал піша: «У ноч з 3 на 4 кастрычніка 1941 года, калі ўжо здарыўся прарыў немцаў на абодвух флангах Заходняга фронту і пад Масквой склалася найцяжэйшае становішча, я па ВЧ далажыў Сталіну абстаноўку і папрасіў дазволу адвесці войскі на Гжацкі рубеж. Сталін не прыняў у гэты момант ніякага рашэння і знячэўку загаварыў пра сябе чамусьці ў трэцяй асобе: «Таварыш Сталін не здраднік. Таварыш Сталін не прадажнік. Таварыш Сталін чэсны чалавек. Таварыш Сталін зробіць усё, каб выправіць тое, што здарылася». Як відаць, дакоры сумлення Сталіну часам таксама былі не чужыя. Але не гэта галоўнае. Галоўнае — гэта тое, што Сталін прызнаў: яго дзеянні, што прывялі да такога драматычнага і небяспечнага становішча для Масквы, для ўсёй краіны, прыроўніваюцца да здрадніцтва. Якія менавіта? Можна не сумнявацца: наклікання вайны на краіну, аддача стратэгічнай ініцыятывы ў рукі праціўніка. У гэтым ён быў вінаваты асабіста, чаго не мог не прызнаваць. У канкрэтных жа ваенных няўдачах, як вядома, ён сябе не вінаваціў: за іх адказвалі, хто пасадаю, хто галавой, генералы.**

Страшныя дні кастрычніка 1941-га моцна заселі ў памяці Сталіна. Пра іх ён памятаў і пасля перамогі. 24 мая 1945 года ў Крамлі на прыёме ў гонар камандуючых войскамі ў праславутым заключным тосце ён гаварыў:

«Я падымаю тост за здароўе рускага народа не толькі таму, што ён — кіраўнічы народ, але і таму, што ў яго маецца светлы розум, стойкі характар і цярплівасць.

У нашага ўрада было нямала памылак, былі ў нас моманты адчайнага становішча ў 1941—1942 гг., калі наша армія адступала... таму што не было іншага выйсця. Іншы народ мог бы сказаць Ураду: вы не апраўдалі нашых спадзяванняў, ідзіце прэч, мы паставім іншы ўрад, які заключыць мір з Германіяй і забяспечыць нам спакой. Але рускі народ не пайшоў на гэта, бо ён верыў у правільнасць палітыкі свайго ўрада».

Значыць, у 41-м Сталін прагаварыўся, што яго можна абвінаваціць у здрадзе, у 45-м — што ў першыя гады вайны не заслугоўваў права кіраваць краінай. Але так і здаецца зноў, што гэтыя словы — «вы не апраўдалі нашых спадзяванняў, ідзіце прэч» — узніклі куды раней, яшчэ да вайны. Можа быць, нават задоўга да вайны, калі ён прадумваў і прыкідваў, як уцягнуцца ў вайну і што з гэтага выйдзе. Чаму? Ды таму, што пасля гэтых слоў ідуць словы: «Мы паставім іншы ўрад, які заключыць мір з Германіяй і забяспечыць нам спакой». Ні ў адзін з момантаў Вялікай Айчыннай вайны ў савецкага народа не магло ўзнікнуць думкі аб міры з Германіяй. Гэта была вайна на знішчэнне, і народ выдатна пра гэта ведаў. Такія войны мірам не канчаюцца.

А вось першая сусветная вайна магла скончыцца серыяй сепаратных перамір'яў. Брэсцкі мір быў менавіта такім сепаратным мірам, заключаным па патрабаванні народа, які стаміўся ад вайны і сказаў Часоваму ўраду: «Ідзіце прэч, мы паставім іншы ўрад, які заключыць мір з Германіяй і забяспечыць нам спакой».

Такім чынам, вопыт першай сусветнай вайны паказаў, што стомлены ад вайны народ можа прымусіць урад адступіць. І, думаючы аб будучай вайне, Сталін не мог не ўлічваць гэтага.

Як жа ахаваць сябе ад магчымай успышкі народнага гневу?

Многія вучоныя і публіцысты заходзяць у тупік, калі спрабуюць асэнсаваць маштабы сталінскіх рэпрэсій. У імя чаго тысячы і тысячы, ды што там тысячы! — мільёны ахвяр? Для зацвярджэння ўласнай улады такая колькасць іх была празмернай. Асцярожна выказваецца думка пра псіхічнае нездароўе.

Усё становіцца на свае месцы, калі зразумець, што ўся дзейнасць Сталіна была накіравана на дасягненне яго «вышэйшых» мэт ваеннымі сродкамі.

Так, для барацьбы за ўладу М. І. Бухарын у 1937 годзе не ўяўляў перашкоды. Але, разважаў Сталін, гэта — у дні міру. А пачнецца вайна, дапушчу я якую-небудзь палітычную ці ваенную памылку, і вакол такіх бухарыных пачнуць групавацца незадаволеныя. Як тады за імі ўсачыць перад тварам ворага? Трэба знішчыць іх загадзя...

І знішчаў.

Знішчалася не толькі апазіцыя. Знішчалася і апазіцыя патэнцыяльная — кожны, хто меў неасцярожнасць выказаць якоенебудзь сумненне ў велічы і геніяльнасці правадыра, сумненне ў правільнасці таго, што адбываецца. Такія людзі ў выпадак вайны былі небяспечныя. Сталін сам прымаў удзел у барацьбе з самадзяржаўем, у звяржэнні Часовага ўрада і ведаў, якія людзі гэтым займаюцца. Самыя яркія, разумныя, палымяныя, ініцыятыўныя, з абвостраным пачуццём справядлівасці — няхай сабе рабочыя, дваране, сяляне ці папоўскія дзеці. Тыя, каго не задавальняе існуючы парадак.

Менавіта такія і вынішчаліся... Тыя, што былі па светаўспрыманні паслухмянымі выканаўцамі ці прыкідваліся імі, заставаліся жыць і нават рабілі кар'еру, займаючы месцы знішчаных.

Асобна стаіць пытанне: чым былі выкліканы рэпрэсіі ў арміі? Сорак тысяч афіцэраў, як сказана ў фільме «Працэс»! Добра, што гэтая лічба паўторана ў «Праўдзе», інакш падумаў бы, што той, хто назваў яе, абмовіўся. Ды 20 тысяч работнікаў НКУС — гэта ж таксама афіцэры.

Рыхтавацца да вайны і — абезгалоўліваць армію? Навошта?

Незаменных няма, гаварыў правадыр, што нізвёў людзей да шрубак. Значыць, знойдзецца замена і для сарака, для шасцідзесяці тысяч. Затое знікне патэнцыяльна самая небяспечная праслойка — тая, што валодае зброяй і камандуе людзьмі. Калі сярод іх ўзнікне незадаволенасць — пішы прапала. З афіцэрствам трэба паступіць так, каб у тых, хто прыйдзе на месца знішчаных, і ценю думкі не ўзнікла, што ў іх можа быць нейкае там іншае меркаванне, чым у правадыра. Безумоўнае, пакорлівае падпарадкаванне, ніякай палітыкі! Невыпадкова з вышэйшых палітработнікаў не ацалеў ніхто! Палітык, які жыве ў войсках, камандуе імі,— што можа быць больш небяспечнае для тырана?

Але адных рэпрэсій здавалася мала. І перад вайной, і ў ходзе яе Сталін працягваў аберагаць сябе ад любых выпадковасцей канцэнтрацыяй улады. Застаючыся на пасту генсека, роўна за паўтара месяца да вайны стаў Старшынёй Саўнаркома. З гэтага, дарэчы, моманту яго партыйная пасада генсека перастае ўпамінацца. 30 чэрвеня ствараецца Дзяржаўны Камітэт Абароны з наданнем яго пяці членам (Сталін, Молатаў, Варашылаў, Малянкоў, Берыя) выключных правоў і паўнамоцтваў. Сталін становіцца Старшынёй ДКА. Пасля — Вярхоўным Галоўнакамандуючым. Затым — Наркомам Абароны. Пяць галоўных пасад у дзяржаве! Гэта рабілася не таму, як сцвярджае раманіст, што так, маўляў, было зручней кіраваць краінай і войскамі, а для таго, каб побач не стаяў чалавек, надзелены роўнай ці большай уладай над арміяй. Цікава, што гэтая канцэнтрацыя ўлады працягвалася і пасля вайны. Так, да 1946 года побач з наркаматам абароны існаваў наркамат Ваенна-Марскога Флоту. У 1946 годзе яны былі аб'яднаны ў адно Міністэрства Узброеных Сіл, і першым міністрам яго стаў Сталін. І не сказаць, што для таго часу было характэрна аб'яднанне наркаматаў: наадварот, іншыя драбніліся. Нават і пасля вайны, пакуль былі фізічныя сілы, Сталін не выпускаў армію з рук.

Не ведаю, маю я рацыю ці не, але новую ўспышку рэпрэсій, пачынаючы з 1949 года, можна, бадай, вытлумачыць новай рыхтуемай ваеннай авантурай. Час быў напружаны. У 1950 годзе, як аб'явіў Сталін, аднаўленне народнай гаспадаркі было закончана. Значыць, можна было па новай...

Вынікі Вялікай Айчыннай вайны, як вядома, Сталін падсумаваў у прамове 9 лютага 1946 года. Якімі ж адкрыццямі дзяліўся з народам пра гэтую вайну ён — той, хто ўкраў славу сапраўдных палкаводцаў, хто быў абвешаны ордэнамі і зоркамі, увенчаны званнем генералісімуса, уваскрэшаным спецыяльна для яго, хто быў абвешчаны найвялікшым стратэгам усіх часоў і народаў? Што, на яго думку, прынесла краіне гэта вайна?

Аказваецца, толькі добрае.

Страшна чытаць развагі аб «станоўчых баках» вайны. Аказваецца, «вайна была не толькі праклящцем». Яна, ці бачыце, паказала, які ў нас выдатны грамадскі лад, які добры ў нас дзяржаўны лад; яна пашырыла межы краіны; умацавала граніцы; наладзіла цудоўную праверку кадрам... Быццам яно і так, і няма з чым спрачацца. Чаму ж яна выклікае пратэст, гэтая «гістарычная» прамова?

Таму што ў ёй **няма ні слова пра пакуты народа.**

●

Ну, а як раманіст? Ці ведаў ён пра ўсё гэта, што тут напісана?

Несумненна, ведаў.

Ён не мог не ведаць, таму што тое ж самае вывучаў куды шырэй і падрабязней, чым я. Ён жа пісаў не артыкул — раман.

Ведаў праўду і свядома прыхаваў яе. Пісаў няпраўду і баяўся, што колькі б вяровачцы не віцца — канец будзе. Прыйдзе новы час, прыйдуць новыя людзі і яму не павераць.

І ён вырашыў з сваім раманам загадзя расквітацца з імі.

«Знойдуцца... такія, — піша ён, — якія дазволяць сабе меркаваць аб падзеях тых дзён без належнага разумення іх трагічнасці і разглядаць іх з пазіцый нейкага філасофска-гістарычнага дальтанізму. А іншыя, сарамліва забыўшыся на колішнія вераванні і публічныя сцвярджэнні, стануць шукаць «маятнік» «новага» часу і нярэдка рып флюгера на чужым даху прымаць за голас ісціны. Гэтыя людзі пры пэўных гарантыях бяспекі для сябе, калі страх за свой дабрабыт не бянтэжыць іх сэрца (Берыю б на іх! — **І. Л.**), хуткія на першае слова і на сумніцельную справу. Яны старанна пачнуць высякаць сваімі пёрамі іскры з кола гісторыі і выдаваць іх за промні праўды. Гледзячы ў мінулае цераз прызму свайго разгарачанага ўяўлення, яны будуць замешваць ісціну на хлусні і на ўласным невуцтве, падносячы плён працы сваёй як азарэнне геніяў, што ўзнаўляюць сапраўдную і ўсеабдымную гісторыю».

Няхай сабе. Да праўды лаянка не ліпне.

## ПРЭМІЯ ЛАТЫШСКІХ СЯБРОЎ

**Прэзідыум секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў Латвійскай ССР прыняў рашэнне прысудзіць прэмію Дзён паэзіі 1988 года за значныя дасягненні года ў галіне літаратуры Васілю СЁМУХУ — за пераклад драмы Я. Райніса «Агонь і ноч» і актыўную папулярызацыю латышскай паэзіі на беларускай мове.**

## КАНАДСКІ ЖЫВАПІС

**Выстаўка гэтая, якая працуе ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, незвычайная. Творы канадскіх жывапісцаў, што склалі экспазіцыю, — першае знаёмства мінчан і гасцей сталіцы рэспублікі з мастацтвам гэтай краіны. Аднак ёсць яшчэ адна адметнасць выстаўкі: усе трыццаць работ, прывезеныя ў Мінск, сабраны вядомым калекцыянерам доктарам Файерстоўнам. У сябе на радзіме ён мае спецыяльна пабудаваны дом для захоўвання унікальнай калекцыі, якая налічвае нямоганямала — 1400 твораў канадскага жывапісу, што збіраліся на працягу звыш 70 гадоў.**

**30 работ з 1400 — не так і шмат. І ўсё ж выстаўка ўражвае, бо адкрывае вабнасць свету, да гэтага нам малавядомага. Творы Р. Летандр, А. Біле, К. Шафера, Э. Элізабет і іншых — своеасаблівы партрэт Канады.**

# Часопісы ў лістападзе

## «БЕЛАРУСЬ»

**З вершамі выступаюць С. Грахоўскі, Л. Дранько-Майсюк, В. Шніп. Друкуюцца таксама творы У. Хадыкі і А. Зарыцкага, апавяданні В. Супрунчука і Л. Гаўрылкіна, фотарэпартаж Ю. Іванова «Ад інтэрв'ю адмовіўся...», артыкул Я. Скрыгана «Самы дарагі скарб», роздум М. Вышынскага «Каб кувала зязюля...», успаміны А. Капусціна пра П. Пестрака «Фатаграфія нагадала», пад рубрыкай «Зямля, адкуль родам» — нарыс А. Лойкі «Рапсодыя слонімскіх пагоркаў».**

**З нататкамі пад красамоўнай назвай «Яжовыя рукавіцы» выступае П. Пруднікаў, пра творчасць фотамайстра Я. Коктыша разважае В. Жук — «Дзень — гэта маленькае жыццё».**

**«Рэпартаж з Дзяржарбітражу» В. Лапіна прапануецца пад рубрыкай «XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя: рэзалюцыі і рэальнасці».**

**Публікуюцца артыкул У. Конана «Шлях цярністы і мужны», нарыс А. Капілава «Трыццаць пяты здымак», шэраг іншых матэрыялаў.**

## «КРЫНІЦА»

**Пад рубрыкай «Спадчына» Я. Саламевіч і В. Скалабан прадстаўляюць творчасць члена першага ўрада БССР Ф. Шантыра. Раздзел «Постаці» працягвае расказ В. Чаропкі пра Усевалада, князя Герцыке — «Непрымірымы».**

**«Некалькі невядомых старонак з гісторыі айчыннага «року» — артыкул У. Ахроменкі.**

**Змешчаны таксама публіцыстычныя нататкі Т. Шаровай «Ні да вёскі, ні да горада...», апавяданне А. Федарэнкі «У выхадныя дні», вершы Л. Галубовіча, «спроба палітычнага агляду» С. Дабрынеўскага «На малой сцэне», нарысы Н. Громавай «Выбух», М. Знака «Цябе не пакінуць, Кірс», шэраг іншых публікацый.**

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ»

**Нумар адкрывае рубрыка «Далягляды перабудовы», пад якой змешчаны артыкул Р. Бузука «Абнаўленне патрабуе перабудовы».**

**Аддзел выяўленчага мастацтва прадстаўлены матэрыяламі А. Шамрук «Гуманізацыя асяроддзя ці інертнае існаванне?», В. Грыгубовіч «Ці ёсць порах для атакі?», Э. Пугачовай «І неабсяжнае магчыма», Т. Гаранскай «Суседзі ці аднадумцы?», А. Дабравольскага «Трыо Паплаўскіх», Л. Анцімонава «Залатыя россыпы таленту».**

**Пра Дні ігравога кіно рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі ў Мінску ў артыкуле «Кінематаграфічныя паралелі, або Пра фестываль баз журы і прэмій» расказвае Е. Бондарава.**

**У тэатральным раздзеле часопіса — «круглы стол» крытыкаў па выніках «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны-88», водгук на гастролі ў Кіеве тэатра пантамімы «Рух», рэцэнзія на спектакль Рускага тэатра БССР «Майстры».**

**Д. Падбярэзскі разважае пра Усесаюзны фестываль-конкурс польскай песні («Бомба ў Віцебску»); В. Ліцвінка і У. Раговіч у «Песнях зімы» знаёмяць з узорамі каляндарнай абрадавай песеннасці («Песні зімы»).**

**Вынікі VIII фестывалю аматарскіх тэатраў рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі «Рампа дружбы-88» разглядаюць І. Кашыцкая і Г. Сачанка, А. Лабовіч у матэрыялах «Каля фестывальнай афішы», «Рампа дружбы» дае ўрокі».**

**І. Чарняўскі і І. Цішкін («Гарадская ратуша») знаёмяць з помнікам архітэктуры XVIII ст. у Віцебску; А. Лявонава («Нашчадкам на памяць»)— з беларускім медальерным мастацтвам XVI—XVII стст.**

**У нумары змешчаны таксама старонкі календара і хроніка мастацкага жыцця.**

## «БЯРОЗКА»

**У традыцыйнай «Бібліятэцы часопіса «Бярозка» друкуецца падборка вершаў У. Караткевіча з уступным словам В. Зуёнка «Крылы над роднай зямлёю». Змешчаны ў нумары таксама вершы А. Вольскага, А. Русецкага, А. Дзеружынскага, апавяданні Э. Луканскай «Вернасць сцягу» і М. Даніленкі «Просека», раздзелы з аповесці А. Сопата «Падранкі».**

**В. Мартыненка дзеліцца думкамі пра творчасць барда А. Камоцкага, змешчаны і плакат спевака, а таксама «Прэс-бюро «Музычнага экспрэса».**

**В. Працкайла расказвае пра тых, хто прынёс славу беларускаму спорту з далёкага Сеула «Залаты дождж верасня».**

**Л. Вольскі прапануе казку ў малюнках «Як Васіль змея перамог», а Ю. Рудзіна знаёміць з новымі мадэлямі адзення на зіму.**

**Г. Чыгір запісаў гутарку з настаўніцай Узбіншчынскай сярэдняй школы Лагойскага раёна Г. Зелянко «На парозе жыцця», С. Сай назвала свае публіцыстычныя нататкі «Ці варта быць актыўным?», пра падарожжа з будучымі маракамі расказаў у фотарэпартажы «Буду капітанам» М. Дземідовіч, а Л. Клышка арганізаваў рэпартаж з першага рэспубліканскага злёту юных сяброў органаў аховы правапарадку «Злёт смелых, дружных, адважных».**

**Пад рубрыкай «Верасок» змешчаны творы юных мастакоў і літаратараў.**

*Рэпартаж у нумар*

# БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

У Доме літаратара дзіцячая гамана, усмешкі дарослых... Свята! Трохсот сарака месцаў залы не хапіла для размяшчэння усіх. Давялося прынесці крэслы з суседніх пакояў, і нават галёрка была занята.

Восеньскім суботнім днём тут была наладжана сустрэча дзяцей, якія навучаюцца на беларускай мове ў 25-ці класах мінскіх школ, і іх бацькоў. Арганізатарамі яе сталі Саюз пісьменнікаў Беларусі, Беларускі дзіцячы фонд і Мінскі гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных класаў і груп.

Колькі слоў варта сказаць пра сам камітэт, бо шмат каму ён невядомы. Утвораны ГБК у верасні г. г. шляхам дэлегіравання прадстаўнікоў ад кожнага бацькоўскага сходу. Яны павінны заняцца пытаннямі каардынацыі мерапрыемстваў, пераадолення пэўных цяжкасцей, сумеснай дзейнасцю на пашырэнні беларускамоўных класаў, а пазней і школ. Не сакрэт, што клопатаў з адраджэннем беларускай школы яшчэ хапае. Хто прыдачыніўся да гэтай справы, той ведае пра недахоп навучальных дапаможнікаў, складанасць кадравага пытання, адсутнасць дыяфільмаў, гукавога матэрыялу. Не заўсёды сказанае нават і з высокіх трыбун супадае з рэаліямі штодзённага жыцця.

Члены ГБК лічаць важным і стварэнне асяроддзя, дзе б часцей гучала беларуская мова, у якім бацькі і дзеці маглі паразумецца між сабой, пабачыць, што адраджэнне беларускай школы — справа не дзесяці-дваццаці чалавек, а шырокі грамадскі рух, які ахоплівае розныя слаі насельніцтва.

Але вернемся ў залу Дома літаратара. Прывітальнае слова гасцям сказаў яго дырэктар, пісьменнік Анатоль Жалязоўскі. Ён павіншаваў усіх з першым сумесным мерапрыемствам, якое сведчыць пра грунтоўнасць справы развіцця беларускай культуры, запрасіў жадаючых часцей наведвацца ў пісьменніцкі дом.

Грымнулі музыкі, завіхурыла на сцэне «Полька-закручона», ажыўленне перакінулася і на ацісхлую было залу. У гэты дзень «цвіком праграмы» было выступленне лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі фальклорнага ансамбля «Зорачка». Яго праграма — нібы тая нітачка, якая злучыла выступленні вучняў 92, 108, 180, 186 і іншых мінскіх школ, пісьменнікаў. Між полькамі, «Павою» ці іншымі танцамі чыталіся вершы, загадваліся загадкі, гледачы шчыра рэагавалі на жарты. Цёплыя словы прывітання пачулі вучні і бацькі ад аўтара «Буквара» Анатоля Клышкі, Уладзіміра Ліпскага, рэдактара «Вясёлкі» і старшыні Беларускага дзіцячага фонду, паэтаў Міколы Чарняўскага і Кастуся Цвіркі, Ніны Галіноўскай і Васіля Жуковіча.

У перапынку адбыўся бацькоўскі міні-сход. Пайшла гаворка пра справы і планы ГБК. У бліжэйшы час мяркуецца правесці гарадскі бацькоўскі сход з удзелам прадстаўнікоў народнай асветы.

Арганізатары і ўдзельнікі свята пераканаліся ў патрэбе такіх ранішнікаў, вечарын, пра што сведчаць запісы ў кнізе водгукаў. Прадстаўнікі парткома трактарнага завода напісалі: «Усё вельмі добра! Трэба, каб такі Дом літаратара быў не адзіны». Сям'я Габрусяў пакінула такі запіс: «Вельмі задаволены святам. Падтрымліваем бацькоўскі камітэт з усімі яго пачынаннямі і праграмай».

**І. ЧАРНЯЎСКІ,**
археолаг,
старшыня гарадскога бацькоўскага камітэта.



На сцэне Дома літаратара лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі ўзорны фальклорны ансамбль «Зорачка»



Беларускія народныя гульні... Гэта ж цікава!



У зале — яблыку няма дзе ўпасці.



«Полька-закручона» ў выкананні артыстак «Зорачкі» і старшыні Дзіцячага фонду Беларусі Уладзіміра ЛІПСКАГА.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**НАГАДВАЕМ, ШТО ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА ШТОТЫДНЁВІК «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА» НА 1989 ГОД.**

Да канца сёлетняга і на пачатку новага, 1989, года на старонках «ЛіМа» будуць надрукаваны:

матэрыялы да Пленума ЦК КПСС па нацыянальнай палітыцы: артыкулы і нататкі У. КАЛЕСНІКА, У. ГОЛУБА, М. ЯНЧАНКІ

публікацыі пад рубрыкай «Экалогія: праблемы, сітуацыі, канфлікты»

справаздача з «круглага стала» «Спадчына: збор, друкаванне, асэнсаванне»

старонкі з новай аповесці В. БЫКАВА «Аблава»; новыя празаічныя і вершаваныя творы В. АДАМЧЫКА, У. АРЛОВА, Т. БОНДАР, Я. БРЫЛЯ, А. ВАСІЛЕВІЧ, В. ВІТКІ, П. ПАНЧАНКІ, І. ПТАШНІКАВА, У. РУБАНАВА, В. ТРЫХМАНЕНКІ

эсэ М. ЛУЖАНІНА пра цётку Уладзю; версія Г. КОЛАСА апошніх дзён жыцця Янкі Купалы і працяг публікацыі на гэтую тэму Б. САЧАНКІ

малавядомыя старонкі спадчыны Я. ДРАЗДОВІЧА і В. ЛАСТОЎСКАГА

новыя пераклады: раздзелы рамана Дж. АРУЭЛА «1984», апавяданне У. НАБОКАВА, вершы Я. СЕЙФЕРТА

Выпісвайце і чытайце «Літаратуру і мастацтва» — грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі штотыднёвік!

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01451 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, машынапісная бюро — 33-44-04, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.

Галоўны рэдактар Анатоль ВЯРЦІНСКІ.